*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 26 (1073)** **27 ЧЭРВЕНЯ 2012 г.**

## Старая песня ад новага намесніка міністра



00027626

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
вул. Савецкая, 9
220010, г. Мінск
тэл. 227-47-36, факс 200-84-83
E-mail: root@minedu.unibel.by

МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ул. Советская, 9
220010, г. Минск
тел. 227-47-36, факс 200-84-83
E-mail: root@minedu.unibel.by

[illegible] № [illegible]

На № ______________ от ____________________

Старшыні грамадскага аб'яднання
“Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны”
Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анагольевіч!

У Міністэрстве адукацыі разгледжаны Ваш чарговы зварот аб выданні падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Паведамляем наступнае.

З 2006 года вучні ўстаноў адукацыі маюць права выбару мовы вывучэння вучэбных прадметаў "Гісторыя Беларусі" і "Геаграфія Беларусі". Ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання вучэбныя прадметы "Гісторыя Беларусі" і "Геаграфія Беларусі" вывучаюцца на рускай мове, а ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання - на беларускай мове.

Пераход на выкладанне гэтых прадметаў на беларускай мове з 2012 года немагчымы ў сувязі з адсутнасцю неабходнай колькасці падручнікаў. Для іх перавыдання патрэбна 8,7 млрд. рублёў. Выкарыстанне падручнікаў разлічана на 6 гадоў, іх планавае перавыданне прадугледжана ў 2015-2020 гадах.

Як ужо Вам паведамлялася раней, у 2009 годзе аднаўлена выданне кніг серыі "Школьная бібліятэка", якая адпавядае патрабаванням вучэбных праграм па вучэбных прадметах "Беларуская літаратура" і "Руская літаратура". На яе выданне Міністэрства інфармацыі выдзяляецца мэтавае 100% фінансаванне з рэспубліканскага бюджэту. Выпуск гэтай літаратуры здзяйсняюць падначаленыя Міністэрству інфармацыі дзяржаўныя выдавецтвы. Кнігі названай серыі паступаюць з выдавецтваў у бібліятэкі ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі згодна з нормамі і сацыяльным заказам Міністэрства адукацыі. У кампетэнцыю Міністэрства адукацыі не ўваходзіць камплектаванне кнігамі серыі "Школьная бібліятэка" публічных бібліятэк і, у прыватнасці, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Дадаткова паведамляем, што з 2009 года ў серыі "Школьная бібліятэка" было выдадзена 46 найменняў кніг на беларускай мове, а на рускай мове - 19, у 2012 годзе запланавана выданне 11 найменняў кніг на беларускай мове, на рускай мове - 7. У асноўным названая серыя на беларускай мове выдаецца зборнікамі, у якія ўваходзяць творы вялікай колькасці пісьменнікаў, а на рускай мове - толькі творы аднаго ці двух аўтараў.

На пытанні аб выданні вучэбных дапаможнікаў і картаграфічнай прадукцыі Вам быў дадзены адказ раней (пісьмо от 18.05.2012 № 06- 15/2706/дс).

Намеснік Міністра В.В. Якжык.

## Калі беларускую мову выкладаць добра

Сёлета па краіне на ЦТ зарэгістравалася больш як 141 тыс. чалавек. Рускую мову выказалі жаданне здаваць звыш 95 тыс. чалавек, а беларускую - звыш 45 тыс. чалавек (32 %). Беларуская мова яўна здае пазіцыі, і тут мы маем агульнабеларускі клопат.

Але не ўсюды такія суадносіны паміж беларускай і рускай мовамі. Да прыкладу, у Лідзе ЦТ па рускай мове здавалі 1143 чалавекі, а па беларускай - 1645 чалавек (59 %).

Гэта пры тым, што ўсе 16 лідскіх гарадскіх школаў - рускамоўныя па факту, ды і ў астатніх гарадах рэгіёну сітуацыя мала лепшая. І вясковыя школы не ўсюды беларускамоўныя. Але, відаць, у гэтым рэгіёне ўзровень выкладання беларускай мовы высокі, калі большасць дзяцей лічыць, што яны здадуць тэставанне па беларускай мове лепш, чым па рускай. Ніколькі не прыніжаючы ўзровень выкладання рускай мовы, можна тым не менш канстатаваць, што тут азначэнне “родная мова” яшчэ цвёрда замацавана за мовай беларускай, і ў тым найбольшая заслуга настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, на якіх у нашым грамадстве гатовы вешаць усю адказнасць за слабое валоданне мовай нашых дзяцей. Настаўнікі то працуюць, ім бы яшчэ адміністрацыйную падтрымку, ды матэрыяльную зацікаўленасць, прывязаную да вынікаў.

***Наш кар.***

ISSN 2073-7033



## КУПАЛЛЕ Ў ЛОНДАНЕ

23 чэрвеня беларуская грамада Вялікабрытаніі адзначыла адно з найстаражытных народных святаў - Купалле.



Разам з тым Купалле - адно з маладых святаў беларускай дыяспары на Туманным альбіёне. Брытанскія беларусы пачалі актыўна адзначаць яго з канца 1990-х. "Усё пачыналася яшчэ пры ўдзеле легендарных брытанцаў і вялікіх прыяцеляў Беларусі Веры Рыч і Гая Пікарыды", - распавёў адзін з ініцыятараў святкавання Павел Шаўцоў. Этнаграфічна-фальклорную афарбоўку святкаванне набыло дзякуючы Караліне Мацкевіч - адной з завадатарак цяперашняй беларускай грамады. Усяго за некалькі год Купалле стала самым папулярным святкаваннем сярод беларусаў Вялікабрытаніі, што збірае нашых суайчыннікаў ды сяброў Беларусі ў лонданскім раёне Паўночны Фінчлі.



Паноўная беларуская мова, нацыянальныя строі, вянкі з красак - у купальскую ноч сад сядзібы Беларускага рэлігійнага і культурнага цэнтра імя Св. Кірылы Тураўскага нібыта перанёс прысутных на радзіму.



Цэнтральным месцам абрадавага святкавання стала вогнішча - увасабленне сонца і ўраджаю, як лічылі нашы продкі. Вакол агню вадзілі карагоды, спявалі традыцыйныя купальскія песні, скакалі праз вогнішча ды палілі пудзіла і купальскае кола.

Кожны ахвочы мог узяць урок беларускіх традыцыйных танцаў і далучыцца да аўтэнтычных спеваў. Дзяцей чакала актыўная праграма з традыцыйных беларускіх гульняў. Фатовыстава Сашы Белавокай прадставіла летапіс папярэдніх святкаванняў Купалля ў Лондане. Гучала ў гэты вечар і паэзія Веры Рыч - брытанскай перакладчыцы, якая адкрыла англамоўнаму свету беларускую літаратуру.

Паводле старадаўняй традыцыі, купальская ноч у Лондане скончылася пусканнем вогненных вянкоў па вадзе.

***Кастусь Лашкевіч.***



# РЭАЛЬНЫ ШЛЯХ ДА ДВУХМОЎЯ Ў АДУКАЦЫІ

## Развагі і досвед настаўніка

Я вельмі люблю фільм "Сібірскі цырульнік". Сярод іншага, у ім звяртае на сябе ўвагу тое, што троечнік Андрэй Талстой лёгка пераходзіў з рускай мовы на англійскую і наадварот. Верагодна, што ў англійскай мове ён дапускаў памылкі, было недасканалым і вымаўленне. Але на гэтай мове выкладаліся некаторыя прадметы, яна выкарыстоўвалася шэрагам педагогаў у фармальных і нефармальных адносінах з навучэнцамі. Нічые правы пры гэтым не парушаліся, а карысць была відавочнай.

У студэнцкія гады (я навучаўся па спецыяльнасці біялогія і хімія) мы шырока выкарыстоўвалі лацінскія назвы арганізмаў (капуста - Brassica, бяроза - Betula, таполя - Populus, воўк - Canis, чмель - Bombus bombus і інш.), іх сістэматыку (клас Птушкі - Aves, атрад Жукі - Coleoptera, сям'я Ружовыя - Rosaceae і да т.п.), назвы органаў (чэрап - cranium, страўнік - gaster, сэрца - cor, шчытападобная залоза - glandula thyroidea і г.д.). Знаёмы з Узбекістана казаў, што ў іх студэнты-медыкі ў абавязковым парадку засвойваюць спецыяльную тэрміналогію ажно на трох мовах - узбекскай, рускай, лацінскай.

Чаму раней пры выкладанні па-беларуску гісторыі і геаграфіі Беларусі ўзнікалі праблемы? Чаму студэнты дагэтуль стогнуць і выказваюць незадаволенасць, калі нехта з выкладчыкаў бярэцца на гэтай мове весці свае заняткі? Справа ў тым, што:

1) На ўроках беларускай мовы

- вучні практычна не рыхтуюцца да рэальнага ўспрыняцця і аднаўлення ведаў па розных галінах ведаў;

- правілы вывучаюцца дзеля саміх сябе, а не дзеля іх актыўнага выкарыстоўвання ў жыцці, найперш за ўсё ў вусных і пісьмовых зносінах з настаўнікам-беларусаведам, у тым ліку нефармальных;

- набыццю навыкаў вуснага маўлення не надаецца належнай увагі. Таму на беларускай мове можна пагаварыць толькі пра саму беларускую мову.

2) Спецыяльная для кожнай навукі тэрміналогія застаецца незнаёмай і цяжказразумелай.

У выніку спробы выкладання любых прадметаў пабеларуску ў многіх навучэнцаў і іх бацькоў выклікаюць страх і няўпэўненасць. Тыя ж праблемы нярэдка ўзнікаюць у выпускнікоў сельскіх школ, калі яны працягваюць у горадзе навучанне на рускай мове. Прабачце, а ці не занадта сціплы вынік вывучэння дзвюх моў на працягу цэлых 11-ці гадоў? Можа, надышоў час на самым высокім узроўні ўзняць праблему выкладання моў, бо тут штосьці яўна не так, як магло б быць.

Думаю, што гэту праблему вырашыць не складана. Некалі я пісаў у "НС" (2010 г., № 35), што мэтазгодна змяніць акцэнты ў выкладанні моў: не засяроджваць амаль усю ўвагу на правапісе, а спачатку засвойваць лексіку, навыкі вуснага маўлення, потым правапіс. Бо правапіс без засвоення лексікі - фармалізм, дыдактычны тупік, шлях у нікуды. Практычна тое ж самае, што вучыць чытаць, калі гадаванец яшчэ не запомніў літары. Або вучыць плаваць, не дабіўшыся трымання на вадзе.

Што да іншых прадметаў, то азнаямленне са спецыяльнай лексікай варта ўключыць і ў гэтыя ўрокі. Калі на біялагічных і медыцынскіх спецыяльнасцях не лічаць марнаваннем часу вывучэнне латыні, то і беларускую тэрміналогію ў рускамоўных школах, як і рускую ў беларускамоўных, можна разгледзець. І тады многія праблемы далейшага навучання знікнуць і пра іх будзе смешна нават успамінаць.

У "НС" (2011 г., № 21) быў надрукаваны мой допіс "Хімічныя тэрміны на мовах усходніх славян" (беларускай, рускай, украінскай), а ў часопісе "Хімія: праблемы выкладання" (2009 г., № 6) - "Беларуска-рускі слоўнік хімічных тэрмінаў". Гэтымі напрацоўкамі сёлета на апошніх уроках навучальнага года я скарыстаўся амаль ва ўсіх класах, дзе працую. Праграма была ўжо выканана, асноўныя тэарэтычныя звесткі мы паўтарылі. Можна было павыконваць практыкаванні, рашыць задачы, але вучні ад усяго гэтага яўна стаміліся. І вось ім на сталы раздаюцца ксеракопіі міні-слоўнічкаў. Заўважу, што значная большасць вучняў з цікавасцю сачыла за тым, што па чарзе ўслых зачытвалі з аркушаў іх аднакласнікі:

Абпал - обжиг.

Агрэгатны стан - агрегатное состояние.

Адмоўны зарад - отрицательный заряд.

Азбест - асбест.

Алебастра - алебастр.

Алей - жидкое масло (кроме минерального).

Аснова - основание

…………………………….

Браджэнне - брожение.

Будаўнічыя матэрыялы - строительные материалы.

Будова рэчыва - строение вещества.

Бурштын (янтар) - янтарь.

…………………………….

Вагі - весы.

Вадародны паказчык (pH асяроддзя) - водородный показатель (pH среды).

…………………………….

Газа - керосин.

Газоўка - керосиновая лампа, коптилка.

Галын - квасцы.

……………………………..

І г. д. І да т.п.

Такая незвычайная інфармацыя - гэта і міжпрадметныя сувязі, што ўжо каштоўна само па сабе, і пашырэнне кругагляду, і псіхалагічная разгрузка, і вырашэнне праблемы апошніх урокаў у чвэрці або навучальным годзе, калі адзнакі ўжо выстаўлены, але занятак не скончаны.

Не выключаю, што засваенне тэрміналогіі на дзвюх мовах у далейшым можа стаць не забаўляльным момантам, а патрабаваннем. А для многіх вучняў, асабліва з гуманітарным мысленнем, і магчымасцю лёгка зарабіць высокую адзнаку, бо вялікіх намаганняў для запамінання тэрмінаў, як правіла, не патрабуецца, а займальнасць застаецца. Затое ў наступныя гады гэта захавае іх ад перажыванняў, калі выкладчык раптам пачне праводзіць свае заняткі не на той мове, што была для іх асноўнай у школе.

Міжпрадметныя сувязі хіміі і беларускай славеснасці могуць праяўляцца і ў іншым. Так, пры вывучэнні тэмы "Карбонавыя кіслоты" слушна прывесці такое супастаўленне: "При взаимодействии уксусной кислоты с натрием образуется соль $CH_3COONa$. Вспомните, как по-белорусски называется уксус?" Нехта ў класе звычайна згадвае (а калі не, то настаўнік напамінае): ***воцат***. "Теперь легко запомнить, что соли уксусной кислоты называются ацетатами. Данная соль - ацетат натрия".

Іншыя прыклады. "Кислота $C_{17}H_{33}COOH$ была выделена из масла. Как по-белорусски называется растительное масло?" Яно называецца ***алей***. "А эта кислота - олеиновая".

Пры разгляданні атрымання металаў мы звяртаемся да макета (а ў якіх школах яго няма, то да малюнка ў падручніку) доменнай печкі. Чаму яна называецца доменнай? Ад славянскага слова "дменіе". "А оно очень напоминает белорусское слово ***дзменне***, что значит ***дутьё***. Доменная печь так называется потому, что в неё вдувается воздух".

"Оксид углерода (II) CO иначе называется ***угарный газ*** или - по-старому - ***чадный газ***. Кстати, по-белорусски его название ***чадны газ***. **Чад = угар**".

"Воздух - смесь газов. Это слово однокоренное со словами "вдох", "вздох", "дыхание". Кстати, по-белорусски воздух называется ***паветра***, что напоминает ветер, движение воздушных масс".

Яшчэ большыя магчымасці дае мастацкая літаратура, у тым ліку творы, якія вывучаюцца ў школе.

Кісларод $O_2$ - частка паветра (у паветры яго 21 % па аб'ёму). Хаця на побытавым узроўні паняцці "кісларод" і "паветра" часта змешваюць. Тут на дапамогу настаўніку хіміі прыходзіць раман Івана Шамякіна "Сэрца на далоні":

*Шыковіч стаў на пальчыкі, пацягнуўся, падняўшы рукі, глыбока ўдыхнуў паветра <...>.*

*- Здаецца, што тут нават паветра больш, чым дзе... Якое неба! А?*

*- Больш кіслароду.*

*- Для мяне - паветра. Для цябе - кісларод. Гэта ж табе не кіслародная палатка.*

*- Мне здорава спіцца тут, - Шыковіч весела засмяяўся <...>.*

Можна не толькі паразважаць, што з пункту гледжання хіміі тут маецца на ўвазе - кісларод або паветра, а таксама вызначыць, што такое кіслародная палатка і дзе яна выкарыстоўваецца.

Чадны газ CO утвараецца пры няпоўным згаранні вугляроднага паліва ва ўмовах недахопу кіслароду:

$$2C + O_2 = 2CO$$

Або пры ўзаемадзеянні вуглякіслага газу з раскаленым вугалем:

$$C + CO_2 = 2CO$$

Пры згаранні чаднага газу

$$2CO + O_2 = 2CO_2$$

ўзнікае сіняватае полымя. Для ілюстрацыі можна скарыстацца адрыўкам з аповесці Васіля Быкава "Жураўліны крык":

*"Калі зусім дагарэлі дровы, яшчэ доўга яркай чырванню зіхацела вуголле, на якім дзе-ніздзе прабягалі сіняватапразрыстыя агеньчыкі, але іх усё менела, і з імі гусцеў змрок у гэтай хаціне."*

Серная кіслата $H_2SO_4$ па-лацінску называецца Vitroleum. Яна паглынае вадзяныя пары, пры гэтым утвараюцца гідраты і выдзяляецца цеплыня:

$$H_2SO_4 + nH_2O = H_2SO_4{\cdot}nH_2O + Q.$$

Раней шклянкі з ёй ставілі між аконнымі рамамі, таму вокны можна было на зіму не заклейваць. Але пры паглынанні пароў аб'ём раствору павялічваўся, кіслата магла разліцца і, будучы моцным водааднімальным сродкам, абвугляць драўляныя рамы:

$$(C_6H_{10}O_5)n - 6nC + 5nH_2O.$$

Вось што пра гэта сказана ў рамане Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды":

*Добра было б па шклянцы мітравалю* [маецца на ўвазе Vitroleum, г. зн. серная кіслата. - *У. Л.*] *за вокны - яны не сырэлі б... Так гаварыў калісьці, устаўляючы дубэльты, бацька.*

*Аднак таго таямнічага "мітравалю" няма і вокны стаяць сумныя, запаканыя. Адсырэла і адтапырылася няспрытна разложаная папера, і з-пад яе відаць вуголле.*

Фармалін (раствор мурашынага альдэгіду HCHO) і медны купарвас ("сіні камень") $CuSO_4{\cdot}5H_2O$ выкарыстоўваюцца для пратраўлівання насення перад пасевам. Пра гэта - у рамане Івана Мележа "Людзі на балоце":

*Аднак тут у гаворку ўступае Чарнушка:*

*- <...> От дай рады, Сцяпан, - сажа ярыну аж губіць. Праўда, што каб сінім каменем пратравіць, дык можно было б выбавіцца?*

*- Можно сінім каменем, - ажывае настаўнік, - а можно фармалінам. Памагае добра...*

Такім чынам, беларуская мова і літаратура могуць стаць не выгнаннікамі сярод прадметаў, а прадметамі, на якія абапіраюцца і якія цэняць пры вывучэнні іншых галін ведаў. Засваенне моў - складнік агульнакультурнага развіцця асобы.

Што да азнаямлення з навуковай тэрміналогіяй, то прапаную сваім калегам - настаўнікам розных прадметаў, калі палічаць магчымым, не толькі скарыстацца прыведзеным досведам, але таксама развіць і ўдасканаліць яго. Верагодна, было б апраўдана, калі б падобныя распрацоўкі дасылаліся на адрас прадметных метадычных часопісаў. З часам вывучэнне тэрміналогіі на дзвюх мовах магло б стаць неад'емнай і натуральнай часткай праграмнага матэрыялу і міжпрадметных сувязяў. А таксама дбаннем пра вучняў, якія могуць сутыкнуцца з рэальным двухмоўем пры далейшым навучанні.

***Уладзіслаў ЛУПАКОЎ,***
*настаўнік хіміі СШ № 10 г. Берасця, сябар Асацыяцыі настаўнікаў Берасцейскага аддзялення РГА "Рускае таварыства".*

# Рада ТБМ імя Т. Касцюшкі Кастрычніцкага раёна Менска

17 чэрвеня Рада ТБМ імя Т. Касцюшкі Кастрычніцкага раёна Менска правяла ў рамках года Я. Купалы і Я. Коласа (года беларускай кнігі) пашырнае паседжанне Рады з вольным наведваннем усіх ахвотных. Паколькі заўсёды бываюць праблемы з арэндай памяшкання, было вырашана правесці паседжанне на вольным паветры каля лецішча спадара Я. Грыба, ганаровага старшыні Рады. Присутнічала 70 чалавек. Былі запрошаныя спадары Ю. Хадыка, П. Краўчанка, паэты М. Скобла і С. Адамовіч, дэпутат ВС 13-га скліканння П. Знавец, Л. Баршчэўскі. Паседжанне пачалося з таго, што усе разам праспявалі "Магутны Божа".

Першым выступіў Л. Баршчэўскі, які выказаў думку, што трэба аднаўляць рух за адраджэнне беларускай гісторыі і культуры.

Ю. Хадыка ў сваім выступе адзначыў, што размежаванне інтэлігенцыі прыводзіць да сумных вынікаў, і нам тэрмінова патрэбны асобы, якія б гурталі ўсіх на адзінай платформе.

П. Краўчанка намаляваў шырокую панараму дзеянняў па ўсіх кірунках нацыянальнай культуры. Прапанаваў кожнаму шукаць сваю нішу і плённа працаваць.

Вядомы мастак А. Марачкін заклікаў кожнага ўзмацняць намаганні за вяртанне належнага стану беларускай мове.

М. Скобла закрануў пытанне далейшага развіцця беларускай літаратуры. Ён правёў прэзентацыю кнігі Л. Геніюш, дзе змешчаны ўсе яе лісты, якія яна напісала на працягу свайго жыцця. Прачытаў некалькі яе цудоўных вершаў. Потым ён вітаў спадара Яна Грыба з нагоды прыняцця яго у Саюз беларускіх пісьменнікаў і ўручыў яму пасведчанне. Спадара Яна жартоўна віталі сябры Рады прозай і вершамі, жадалі яму далейшых поспехаў.

Паэт С. Адамовіч правёў прэзентацыю сваіх кніг і таксама чытаў свае вершы.

Спявалі пад гітару В. Равінскі, З. Марчук і П. Знавец. Да іх далучыліся астатнія. Усё паседжанне прайшло на высокім узддыме пры актыўнасці усіх прысутных і вельмі добрым надвор'і. У Менск вярталіся на электрычцы з песнямі.

***Наталля Качаноўская, Ян Грыб.***






# "КАЦІЦЬ БОЧКУ" І ІНШАЕ

Узнікненне многіх фразеалагізмаў звязана з метафарычным пераасэнсаваннем адпаведнага свабоднага словазлучэння - пераносам назвы з адной з'явы на другую на аснове падабенства паміж імі. У аснове такога пераносу ляжыць прыхаванае параўнанне, уяўная сувязь паміж дзвюма з'явамі. Пры метафарычным пераасэнсаванні пэўнае абстрактнае пачуццё, увасобленае ў фразеалгізме, перадаецца праз канкрэтны вобраз, праз нагляднае ўяўленне пра кагонебудзь ці што-небудзь. Да прыкладу: *Ты мне жвачку не жуй, гавары канкрэтна* (А. Кудравец). Ужыты тут фразеалагізм *жаваць жвачку* з яго значэннем 'гаварыць нудна і бесталкова пра адно і тое ж' сфармаваўся на базе аналагічнага свабоднага словазлучэння, якое дастасоўваецца да жвачных жывёл.

З прыкладна 7000 фразеалагічных адзінак, апісаных у двухтомным "Слоўніку фразеалагізмаў" (2008), толькі каля 1800 выразаў супадаюць у гукавых адносінах з адпаведнымі свабоднымі спалучэннямі і на іх фоне ўспрымаюцца як вобразныя, пераносныя, матываваныя. Сярод іх нямала "метафар, узятых з жывёльнага свету" (В.У. Вінаградаў), напрыклад: *віляць хвастом, абрэзаць крылы, асінае гняздо, мокрая курыца, апусціць крылы, трымаць вуха востра, дойная карова, клюнуць на вудачку*.

Як выразы з жывой унутранай формай, або вобразным уяўленнем, якое спадарожнічае фразеалагічнаму значэнню, успрымаюцца, скажам, такія адзінкі з кампанентам ***"бочка"***: *парахавая бочка* - 'неадступная пагроза, вялікая небяспека'; *бяздонная бочка* - 'невычэрпная крыніца матэрыяльных даброт' і 'чалавек, які можа, не п'янеючы, выпіць шмат спіртнога'; *пад усе бочкі шпунт* - 'той, хто любіць умешвацца ў многія справы'; *як у бочцы селядцоў* (у чым) - 'у вялікай колькасці; пра мноства людзей у якім-небудзь месцы'; *як у бочку* (кашляць) - 'вельмі моцна, гучна'.

В.А. Ляшчынская ў вучэбным дапаможніку "Сучасная беларуская мова: фразеалогія", у адным з параграфаў, разглядае ў святле так званай кагнітыўнай фразеалогіі 15 выразаў з кампанентам ***"бочка"***, які, як сцвярджае аўтарка, з'яўляецца "сімвалічным маркіраваным словам" і выступае "яркім паказчыкам нацыянальнай культуры". Пра ўзнікненне фразеалагізма ***каціць бочку*** гаворыцца: *"Вялікія памеры бочкі, яе вага пры напаўненні ствараюць пагрозу фізічнага парадку для чалавека, асабліва калі яна коціцца. Шляхам метафарызацыі словаспалучэння каціць бочку ішоў працэс утварэння ФА каціць бочку - 'несправядліва абвінавачваць каго-небудзь, нагаворваць, паклёпнічаць на каго-небудзь'"*. Але ж пры супастаўленні гэтага фразеалагізма ў яго адзіным названым значэнні з аманімічным свабодным словазлучэннем аніяк не ўзнікае ні метафарычны, ні семантычны эфект ці якая-небудзь пераносная сувязь паміж імі: *Ларыса Давыдаўна бочку коціць на зяця: ён, толькі ён збіў яе дачку з тропу* (А. Масарэнка).

Справа ў тым, што гэты выраз, як і мноства іншых, не з'яўляецца ні "сімвалічна маркіраваным", ні "яркім паказчыкам нацыянальнай культуры". Першае друкаванае выкарыстанне фразеалагізма ***каціць бочку*** знаходзім, хутчэй за ўсё, у газеце "Правда" (1972, 21 чэрвеня): *На Алтае есть выражение "катить бочку", что значит "возвести на кого-то напраслину"*. Выраз узнік не ў нашай рэспубліцы, а трапіў да нас з іншых мясцін Савецкага Саюза, магчыма, з таго ж Алтайскага краю, дзе, як і ва ўсёй Сібіры, было мноства "исправительно-трудовых лагерей". Відаць, там, у асяроддзі зняволеных, і склаўся гэты выраз. Нарадзіўшыся ў чыймсці індывідуальным маўленні, ён, падхоплены іншымі людзьмі з бліжэйшага акружэння, стаў шырокаўжывальным. Як пісаў І. Буніч, "вялікі сталінскі ГУЛАГ даўно ўжо выплюхнуў крымінальную этыку і крымінальны жаргон на ўсё савецкае грамадства".

Этымалагічная неакрэсленасць, нематываванасць, цьмянасць прыкметы, пакладзенай у аснову выразу ***каціць бочку***, вядзе да таго, што ягоны назоўнікавы кампанент цяпер найчасцей ужываюць у форме не адзіночнага, а множнага ліку *(каціць бочкі)*, што пацвярджаецца прыкладамі з твораў В. Блакіта, А. Жалязоўскага, А. Масарэнкі, У. Рубанава і іншых аўтараў.

У нашай мове, як і ў рускай ды ўкраінскай, замацавалася некалькі слоў і выразаў, выток якіх - турэмна-лагерны жаргон. Так, ***тухта*** абазначае 'падман', або, як пісаў А. Салжаніцын, "чаго на самай справе няма". Выраз на ***поўную катушку*** ніяк не звязаны з назоўнікам ***катушка*** ў яго звычайным значэнні. У маўленні ж зняволеных гэта 'поўны, вышэйшы тэрмін асуджэння, пакарання'. ***На поўную катушку*** мае тры значэнні: 1) *па-сапраўднаму, належным чынам, як і трэба* (рабіць што-небудзь): *Мне каб жыць і працаваць на поўную катушку* (П. Місько); 2) *вельмі строга* (караць, штрафаваць): *З непаўнаветняга зрабілі мяне дарослым. Судзіць можна ўжо. І даць на поўную катушку* (І. Чыгрынаў); 3) *спаўна, як толькі можна* (рабіць што-небудзь): *Ён ужо вось-вось гатовы распусціць свой язык на поўную катушку* (А. Васілевіч).

Выразы ***з понтам*** і ***дзеля понту*** абазначаюць 'з мэтай стварыць пэўнае ўражанне'. Ёсць яшчэ адзін выраз - з кампанентам ***"понт"***: ***браць на понт*** (каго), што значыць *'дзейнічаць з апломбам, праваказаць кагонебудзь'*: *Прытвараешся, на понт хочаш мяне ўзяць* (Э. Ярашэвіч). ***Понт*** у жаргоне зняволеных атаясамліваецца з хітрыкамі, ашуканствам і, відаць, з'яўляецца запазычаннем з французскай мовы, у якой ***ponte*** (чытаецца: ***понт***) абазначае *'панцёр'* і *'ўплывовая асоба'*. У французскай мове ёсць і фразеалагізм couper dans le pont, які мае два значэнні: 1) скарыстоўваць шулерскі прыём у картах; 2) недарэчна папасціся, уліпнуць.

З турэмна-лагернага жаргону прыйшоў і выраз ***на цырлах***, які ўжываецца з двума значэннямі: 1) дрыжаць перад кім-небудзь, без адгаворак падпарадкоўваючыся ва ўсім: *Усе, нават афіцэры, перад ім, як кажа старая, на цырлах* (В. Супрунчук); 2) усяляк дагаджаючы каму-небудзь: *Бач, які пан знайшоўся, бегай вакол яго на цырлах!* (С. Законнікаў).

***Іван Лепешаў.***

# Пакуль ляціць страла

*У серыі "Бібліятэка Свабоды" выйшла кніга Ўладзіміра Арлова "Пакуль ляціць стрвла". Гэта сто адказаў пісьменніка на пытанні чытачоў падчас сустрэчаў у бібліятэках і каля вогнішчаў, выступаў на кватэрніках і ва ўніверсітэтах. Дасціпна глыбока, дакладна страла патрапляе ў цэль. Прапануем адзін з адказаў Уладзіміра Арлова на "моўнае" пытане.*




***Пра аўтара.***

*Уладзімір Арлоў нарадзіўся ў Полацку ў год змяі паводле ўсходняга календара і ў год смерці Сталіна паводле календара савецкага. У дзяцінстве марыў стаць дзяўчынкай, потым - вадалазам, паталагаанатамам, журналістам, шпіёнам. Вучыўся на гістарычным факультэце БДУ, якому ўдзячны не за атрыманыя веды з беларускай мінуўшчыны, а за разуменне таго, што якраз гэтых ведаў студэнтам там і не давалі. Першыя творы надрукаваў у студэнцкіх самвыдавецкіх альманахах "Блакітны ліхтар" і "Мілавіца", пасля чаго мусіў пазнаёміцца з літаратуразнаўцамі ў цывільным. Працаваў настаўнікам, журналістам, рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура", адкуль у 1997 годзе быў звольнены "за выпуск исторической и другой сомнительной литературы". Дэбютны празаічны зборнік "Добры дзень, мая Шыпшына" выдаў у 1986-м, пасля чаго выйшлі яшчэ трыццаць кнігаў прозы, эсэістыкі і паэзіі, у тым ліку "Таямніцы полацкай гісторыі", "Адкуль наш род", "Ордэн Белай Мышы", "Час чумы", "Каханак яе вялікасці", "Сланы Ганібала", "Адкусі галаву вароне", "Фаўна сноў", "Імёны Свабоды", "Краіна Беларусь", "Паром праз Ла-Манш".*

*Лаўрэат міжнароднай прэміі "Еўрапейскі паэт свабоды" (Гданьск, 2010).*

*Марыць, каб ягонае эсэ "Незалежнасць - гэта...", напісанае ў 1990 годзе і перакладзенае больш, чым на дваццаць моваў, нарэшце страціла актуальнасць.*

## На якой мове спрачаліся Вітаўт з Ягайлам

***Паважаны спадар Арлоў, ці можна адназначна сцвярджаць, што беларуская мова была ў Вялікім Княстве Літоўскім дзяржаўнай? На якой мове, напрыклад, размаўлялі нашыя князі? Эдуард, Стоўбцы?***

Будучы людзьмі цывілізаванымі ды кіраўнікамі поліэтнічнай дзяржавы, вялікія князі Гедзімін і Вітаўт, як і іхнія папярэднікі і бліжэйшыя наступнікі, ведалі некалькі моваў, у тым ліку маглі паразумецца з сваімі падданымі-балтамі. (Паводле некаторых звестак, апошнім князем, які ведаў іхнюю мову, быў Казімір Ягайлавіч.) Аднак у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Княства дамінавалі беларускія землі. Цалкам заканамерна мова іх насельніцтва ў другой палове XIV стагоддзя зрабілася ў краіне дзяржаўнай і захоўвала гэты статус да 1696 году.

На старабеларускай мове тады гаварыў увесь віленскі вялікакняскі двор. На ёй працавала дзяржаўная канцылярыя. Захаваліся сведчанні, што Альгерд цудоўна валодаў нямецкай мовай, але з пасламі Тэўтонскага ордэна заўсёды размаўляў праз перакладчыка - "па-русінску", іншымі словамі - на тагачаснай беларускай мове. Нямецкі пасол запісаў у дзённіку, што "па-русінску" гаварылі Вітаўт і ўсе прыдворныя. Выдатны прыклад для некаторых цяперашніх палітыкаў.

Наша мова - адна з найдаўнейшых дзяржаўных нацыянальных моваў у Еўропе. Ангельская сталася афіцыйнай у 1362 годзе, французская - у 1400-м.

Па-старабеларуску ствараліся і выдаваліся ўсе зборы законаў дзяржавы, сярод якіх і самы дасканалы ў Еўропе Статут 1588 года. На мове нашых продкаў пісалі соймавыя пастановы. Яна актыўна выкарыстоўвалася ў дыпламатычным ліставанні з Масковіяй ды іншымі суседнімі краінамі. Не існуе ніводнага дзяржаўнага дакумента Вялікага Княства, які быў бы напісаны па-літоўску (у сучасным разуменні гэтага слова). Яно і не дзіва, бо мова, на якой размаўлялі продкі сённяшніх літоўцаў - жамойты, да XVI стагоддзя яшчэ не мела пісьменства. З гістарычных крыніцаў вядома і тое, што, выпраўляючыся ў які-небудзь населены жамойтамі куток дзяржавы, віленскія вялікакняскія службоўцы бралі з сабою перакладчыкаў на беларускую і з беларускай.

Старабеларуская была таксама моваю летапісаў і хронік, шматлікіх мастацкіх твораў. Напэўна, вам будзе цікава даведацца, як гучала тая мова ў літаратурным варыянце. Падкрэсліваючы яе значнасць як дзяржаўнай, вялікі канцлер Леў Сапега з гонарам пісаў: *"А если каторому народу ўстыд праў сваіх не ўмеці, пагатоў нам, которыя не обчым якім языком, але сваім уласным правы спісаныя маем і кождага часу, чаго нам патрэба ку адпору ўсякае крыўды, ведаці можам"*. Дарэчы, у Польскім каралеўстве ўсе ўстановы - як свецкія,такі духоўныя - вялі ў той перыяд справаводства на не зразумелай простым людзям лаціне.

Па-беларуску складзеная велізарная колькасць разнастайных матэрыялаў гэтак званай Літоўскай Метрыкі (архіву вялікакняскай канцылярыі), якая налічвае болей за 600 тамоў. Пераважная іх большасць у XIX стагоддзі была вывезеная ў Расею. Калі ў 1920-м бальшавіцкі ўрад падпісаў мірную дамову з незалежнай Літвой, тая, прэтэндуючы на гістарычную спадчыну Вялікага Княства, запатрабавала вярнуць Метрыку. Адзін з запрошаных экспертаў, беларускі гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі, прапанаваў перадаць літоўцам усе дакументы на іхняй мове. Такіх у сотнях тамоў Мэтрыкі не знайшлося ніводнага.

У гэтай самай справе літоўцы звярталіся па дапамогу і да старшыні эміграцыйнага ўраду БНР Вацлава Ластоўскага. Той даручыў падрыхтаваць праект пагаднення, дзе згаджаўся на перадачу Літве дакументаў, складзеных на мове гэтай дзяржавы. У сваю чаргу, просьбіты мусілі назаўсёды адмовіцца ад дакументаў, напісаных па-беларуску. Літоўскі ўрадовец узрадавана падпісаў пагадненне і, як сведчаць відавочцы, спрабаваў апераваць ім у Маскве "на вялікі канфуз свайго начальства".

Бальшыня сучасных літоўскіх гістарыёграфаў, на жаль, яшчэ не саспела да таго, каб прызнаць старабеларускую дзяржаўнай моваю Вялікага Княства. Не маючы ніякіх падставаў назваць яе літоўскаю, яны насуперак відавочным фактам упарта вынаходзяць іншыя назовы - напрыклад, "афіцыйная славянская" ці нават проста "канцылярская".

Мо і не варта з імі спрачацца. Галоўнае - ведаць самім. Як казаў легендарны кітайскі мысляр Лао Цзы, найбольш зацята спрачаецца той, хто альбо не ведае, альбо прагне схаваць ісціну.

# БДУ арганізуе Міжнародную летнюю школу беларускай мовы

З 25 чэрвеня па 7 ліпеня на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта па вуліцы Карла Маркса, 31, будзе арганізавана Міжнародная летняя школа беларускай мовы.

Як паведаміла прэс-служба БДУ, яе ўдзельнікамі стануць студэнты, магістранты і аспіранты з вышэйшых навучальных устаноў Расіі, Украіны, Польшчы і Сербіі. На практычных занятках яны будуць вывучаць беларускую мову ці ўдасканальваць свае веды ў ёй. У праграму ўключаны таксама экскурсіі па гістарычных месцах Менска і Беларусі, наведванне музеяў і іншых культурных цэнтраў, сустрэчы з дзеячамі беларускай культуры і навукі.

Падчас цырымоніі адкрыцця школы 26 чэрвеня да ўдзельнікаў з прывітаннем маюць звярнуцца рэктар БДУ акадэмік Сяргей Абламейко, дэкан філалагічнага факультэта ВНУ Іван Роўда і старшыня Міжнароднага камітэта славістаў, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Лукашанец.

***Анастасія Янушэўская.***

# ТБМ выпусціла паштоўкі да юбілеяў класікаў беларускай літаратуры










Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка Грамадскае аб'яднанне "ТБМ імя Ф. Скарыны" выдала камплект паштовак. Дызайнер Ігар Марачкін.

Паштоўкі можна знайсці на сядзібе ТБМ па вул. Румянцава, 13 у Менску.

*Наш кар.*

# Каму папрокі? - Белдзяржлітструктурам!

Такой кнігі не было ў Савецкім Саюзе і БССР. Не магло быць з любога пункту погляду у аднапартыйнай сістэме. Дзве аповесці і шэсць апавяданняў Валера Санько, змешчаныя ў кнізе "Ненадрукаванае. У белдзяржлітструктурах" (Мінск, 2009, 400 экз., 198 стар.), практычна не закраталі глыбінныя парадкі ў дзяржаве, не крытыкавалі адзіную і перамоганосную КПСС, аднак іх не друкавалі. Дзесяцігоддзямі.

Чаму так сталася ў савецкай Беларусі, працягваецца ў цяперашняй? Аповесць "Воўка ты знойдзеш на сваю шыю" ("Ваўка"), напрыклад, адхілялі дваццаць пяць разоў. Плюс некалькі разоў у выдавецтвах.

Чытаў, перачытваў "Ваўка" болей дзесяці разоў. Ад гераізму беларускай жанчыны, верніцы ў Бога, выратаванкі ахрышчанага дзіцяці, не раз шчымелі вочы, плакала душа, і не разумеў, хоць што хочаш, не разумеў, чаму сапраўдны патрыятызм на Беларусі не ўхваляецца.

Можа ва ўсіх беларускіх літаратурных інстанцыях выклікалі пярэчанне аўтарскае вядунскае асвятленне дарогі душы жанчыны на Той свет? Дарога гэтая, паводле аўтара, для праведных і гераічных, як хросная матка Мар'я Варламень, не страшная, радасная.

А мо дзяржсістэме і яе часопісна-выдавецкім таленавітым літсядзельцам непрыймальная ацэнка аўтарам праваслаўнага святара Хвядоса Сарокі, для якога па вялікім рахунку праваслаўе і каталіцызм - не лепшы варыянт у беларускіх храмах. Пры мажлівасці святар Сарока аднолькава адрынуў бы абедзве магутныя хрысціянскія канфесіі на Беларусі, унезалежыў бы чыста беларускую плынь - уніяцтва. Дык "Воўк" жа літаратурны твор. Дарэчы адзначаны трэцяй прэміяй Міністэрства культуры БССР яшчэ ў 1964 годзе.

А мажліва, беларускім літаратурным стараннікам (габлёўшчыкам, паводле аўтарскай тэрміналогіі) не падабаецца, як першыя беларускія Алімпійскія чампіёны Клім Радзюк і Сцяпан Корзун, усёй душой і целам выкрыкалі, выстогнівалі ў вырашальную хвіліну "Наперад, беларусы! Наперад!"

Фаталізм апавяданняў "Не давай клятвы, прашу", "Добрую смерць трэба заслужыць..." таксама не па сэрцу беларускай самаеднай літаратурнай шэрасці?

У прадмове "Цярпець можна. Не да бясконцасці" аўтар зазначае:

"За трыццаць два апошнія гады ні адзін літтвор аўтара не выйшаў у дзяржлітвыдавецтве, літчасопісе. Аўтар не так прабіваецца? Дрэнна піша?

Тут мы сустракаемся з адваротным бокам так званага літаратурнага працэсу. З элементарным беларускім самаедствам - раз, з дзяльбою на сваіх і чужых, землякоў і неземлякоў - два, з пустазвонствам, грызоцем, зацінлівасцю літслужкаў - тры. З густаўчынаю і фанабэрыяй тых, хто пры хлебнай лусце - у выдавецтве, літчасопісе. Кожны з іх пэўніцца малавінаватым у любых скаргах любых аўтараў, а то і зусім пачуваецца невінаватым. А ў цэлым гэта не так, безумоўна. Беларускія невінаватаўцы падводзяць установу, пісьменніцтва, культуру, дзяржаву.

"Пры таталітарызме, - справядліва піша гарэтны і доўга гнаны, нарэшце таксама ўпісьменнікаваны Анатоль Сідарэвіч, - ідэалагічны кантроль пранізвае ўсю сферу духоўнага жыцця грамадства. У тых варунках, калі партыя-дзяржава трымае ў сваіх руках сродкі масавай інфармацыі і выдавецкую справу, творчасць па-за афіцыёзам немагчымая" (прадмова да кнігі "Расстраляная літаратура", Мн., 2008, стар.13).

У перабудовачны час у незалежнай Беларусі на літаратурных гонях для многіх непрыўстанованых, непрыкарытных, мала што змянілася. Ціхае далікатненькае літсамаедства ў беларусаў працягваецца. Нават абвастрылася з-за чарговага беларускага глупства, нявыгаднага дзяржаве і народу падзелу пісьменніцкага Саюза на два. Адзін пісьменніцкі лагер зажадаў выдзеліцца з старога Саюза, заснаванага Купалам і Коласам, намерыўся даказаць, што лепей піша, мацней любіць народ, зямлю, парадкі, лепей служаць

Даказаў?

Бе-е-зумоўна. Літшэдэўраў адразу стала мноства, еўрапейскіх перакладаў з беларускай пабольшала ў разы.

Фактычна нішто не змянілася, а аддзяленцы, нібы сляпыя, званяць, званяць, званяць. Толькі па кім? Хоць бы звон быў не па саміх аддзяленцах і цярплівым народзе, няўважнай да выстаўленняў такіх шустрыкаў уладзе…"

Перачытваў аўтарскую прадмову ў кнізе "Ненадрукаванае. У белдзяржлітструктурах" не як прававерныя прачытваюць малітву, а камуністычна зашораныя славуты маніфест, перачытваў прыдзірліва, з цвёрдым жаданнем абараніць часопіснавыдавецкіх сабрацця. Бо сам шмат працаваў у выдавецтвах.

На радасць і жаль, мушу згаджацца з Валерам Санько. Хаця папракаць яго таксама ёсць за што - у дробязях. У цэлым жа знаходзіў у прадмове мноства адметнага, вартага ўсеагульнай увагі.

Прадмова і кніга ў цэлым прыцягваюць філасафічнасцю, сюжэтаваасцю і асабліва поўным раздоллем стыхіі народнай мовы. Даўно ў нас так не пісалі, не пішуць.

…Цікавыя думкі прадмовы.

У большасці беларускіх аўтараў адзін крытэрый - надрукавацца, чым хутчэй надрукавацца. "Вникать в прелесть простонародной речи", як раіў вялікі Максім Горкі, у іх няма часу; у вялікі празаічны твор выцягне дзесятак дыялектызмаў і ганарыцца гадамі.

"Паэты не паміраюць", - сказаў Леанід Галубовіч пра Васіля Гадульку і Васіля Сахарчука, зацкаваны нераскрытых лёс якіх шмат у чым тыповы для Беларусі. Можна дадаць сюды Алеся Бабіцкага, Міколу Купрэева, Віктара Говара, Уладзіміра Лісіцына… На жаль, паміраюць не толькі паэты. Сыходзіць вадою ў пясок творчасць многіх беларусаў.

На адной Салігоршчыне за дваццаць гадоў (1976 - 1996) заяскравілі звыш дзесяці літаратараў. Спрабавалі пісаць літаратурныя творы і не раскрыліся. "Прычынаў шмат, аднак і не адменіш рэдакцыйнае літаратурнае абыякаўства", - пісаў колішні рэдактар "Калійшчыка Салігорска" Аляксей Восіпавіч Кур'ян, аўтар некалькіх кніг, у тым ліку прозы "Соль надзеяў нашых" (1996).

Гарняк Леанід Якубовіч, Анатоль Дубоўскі, тэхнікбудаўнік Валянціна Міклашэвіч, інжынер-механік Збігнеў Радабельскі, цясляр Аляксей Міклашэвіч, настаўнікі Марыя Мацюкевіч, Іван Раманенка і Анатоль Крывіцкі, журналісты Анатоль Блахін, Уладзімір Коўцік, Феафан Раманоўскі, Мікалай Лойка, Наталля Паўлюц... - яны зазначыліся за два дзесяцігоддзі на адной Салігоршчыне. Усюды парасткі ўзыходзілі, у астатніх раёнах Беларусі таксама мноства талентаў. Адзінкі прабіліся праз жвіровы гнёт плітавай шэрай менскай рэдакцыйнасці, жыццёвых няўладкаў, дзяржаўнай абыякавасці.

Беларускі старажытнасучасны досвед і сусветны сведчаць, што аўтар у прадмове не памыляецца. Прыведзеныя Валерам Санько прозвішчы з аднаго Салігорскага раёна за два дзесяцігоддзі пацвярджэнне. Занадта шмат беларускіх талентаў не раскрываецца. Як каліва жыта без дагляду - паліву і падкормкі.

- Як так магло быць - дасведчаны аўтар і выдавецкі работнік, які дабраславіў на чытацкія полкі 1089 (!) аўтарскіх кнігаў, ведае кошт правак у часопісах і выдавецтвах - не можа прабіць уласную кнігу? - пытаю ў аўтара.

- На кожнага загадчыка ў нас дзесяць завіднікаў. У мяне гэтую лічбу ўдакладнялі. Я пакінуў люфт. Практычна дапамог аўтарам амаль 1300 кніг, - паволі-паволі тлумачыць В.А. Санько. - Апрыкла біць галавою у ватную сцяну літабыякаўства, улічваць у асноўным слоўную лухту парадаў беларускіх талентаў, умекаў, літнедарэкцаў.

"Ваўка" па заўвагах Анатоля Зэкава, колішняга рэдактара прозы часопіса "Полымя", двойчы ён папраўляў. Безумоўна, ішоў не на ўсе саступкі, толькі слушнае прыняў. Сёмы год ляжыць аповесць у часопісе.

- Яна маленькая. Нейкіх сорак старонкаў. Не павінна быць праблемаў з друкам.

- Для "Полымя" я скарацію у ёй дваццаць старонак, пра выбары, Маскву, Машэрава, вядунства.

У "Маладосці" сёмы год вылежваюцца яго аповесць "Карыды вогненныя іскры" ("Карыда") і апавяданне "Іскры Алімпіяды". Адобраныя намеснікам галоўнага рэдактара.

- Цяпер у многіх выданнях дробязная праблемка выпаўзае ў вялікую - з набарам...

- Адзін званок - і па электроннай пошце атрымаюць. Галоўная праблемка - адвечная пустая крыўдлівасць літсупрацоўніка, у прынцыпе талковага чалавека і пісьменніка, на нязгоду з ягонай, безумоўна выдатнай, парадай па "ўдасканальванні" твора.

Двойчы аўтар пісаў пісьмы кіраўнікам газетна-часопіснай літустановы. Паведаміў пра зашоранасць і прадузятасць галоўных рэдактараў "Полымя" Міколы Мятліцкага і "Маладосці" Раісы Баравіковай. Адказу не мае. Добрыя стараннікі дзьмуць у тыя ж дудкі, бюракратныя (ад рэд.: у "Маладосці" ўзялі ды замянілі рэдактара).

Кнігу з адпаведнымі лаканічнымі пісьмамі паслаў у чатыры літкіраўніцкія інстанцыі - дзве ў галоўную адміністрацыю, па адной у Саўмін і міністру інфармацыі. Прэзідэнту і кіраўніку адміністрацыі не пасылаў, навошта турбаваць занятых людзей, тым болей што разбірацца з набалелым пытаннем не будуць яны асабіста.

У адказе, смех і грэх, з міністэрства інфармацыі аўтару параілі звярнуцца... у недзяржаўныя структуры. Без іхняй падказкі гэтага не ведаў Валер Санько, які шмат гадоў узначальваў рэдакцыі ў дзяржвыдавецтвах.

Услед за В. А. Санько звернемся да вышэйшага суддзі ў любой дзяржаве. Лепей, чым у заканчэнні аўтарскай прадмовы, не скажаш.

"Скажы, люд беларускі, важкае слова сваё.

Усё жыццё справаю і словам бараніў вас людзі Крывіі, Літвы, Беларусі. Фельчарам у Пінскім раёне і ў арміі, санінспектарам (памочнікам санітарнага ўрача) ў Менску, журналістам і выдавецкім работнікам, доктарам народнай медыцыны. Дабраславіў на чытацкія полкі 1089 (!) аўтарскіх кніг, уласных дванаццаць (аўтарскіх і сааўтарскіх). Біяграфія дадзена ў трох энцыклапедыях (Ад рэд.: цяпер у чатырох энцыклапедыях, дапluсуем ВІКІПЕДЫЮ), а для гэтай асветленай (не кажу шэрай), прыкарытненай застоенасці творы дадзенай кнігі - пустата, драбяза.

Цярпець можна. Не да бясконцасці. Так казалі бацькі (царства нябеснае). Іх волю выконваю. Вось і прашу Цябе, высокагоднасць, пашанотнае гаспадарства, люд беларускі, выказацца: правільна літздзекніцтва над мною цягнецца дзесяцігоддзямі ці мне здаецца?

Усё ад цябе, народ - абярэгі, прыкметы і рэлігія, нацыя і дзяржава. Дык абзавіцеся, людцы, прашу, малю, укленчваю. Не прашу дапамогі - аб'ектыўнасці, праўды, толькі праўды."

Аўтар пасляслоўя ў кнізе доктар філалагічных навук пісьменнік Арсень Ліс слушна сказаў, што ў беларускіх літаратурных камандзёраў час забірае цякучка, ім і белдзяржлітчалектывам не да болю асобнага аўтара і, па вялікім рахунку, не да становішча беларускай літаратуры.

Снег, вецер, дождж ім у вочы - не прывыкаць, абы ўцешна і ўлежна.

P.S. Доўгі час друку гэтай рэцэнзіі таксама шмат пра што сведчыць.

*Уладзімір Паўлаў, пісьменнік, лаўрэат прэміі Івана Мележа.*





# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў ліпені

Адамчык Надзея Іванаўна
Амбразевіч Людміла Мікал.
Амяльковіч Віталь Леанідавіч
Амяльковіч Павел Анатол.
Арбузаў Анатоль Цімафеевіч
Арэшка Вераніка Вячаслав.
Аўдзейчык Ілля Анатольевіч
Аўсей Аляксандр
Бабенка Сяргей
Баброўская Марына Вітал.
Балашка Алег
Баран Аляксандр
Бараноўскі Ігар Віктаравіч
Барболін Васіль Васільевіч
Бармута Юлія Уладзіміраўна
Бацян Пётр Дзмітрыевіч
Белан Наталля
Бельская Святлана
Блізнюк Аляксандр Аляксан.
Богдан Вадзім Міхайлавіч
Бубешка Уладзімір
Бумажэнка Я. М.
Буцко Павел Анісімавіч
Бязрукая Маргарыта Юр.
Варачаева Анастасія Андр.
Васечка Іван Уладзіміравіч
Ваўчок Аляксандр
Вячорка Вінцук Рыгоравіч
Гайко Сяржук Анатольевіч
Галай Аркадзь Апанасавіч
Герасімовіч Казімір Станісл.
Глазко Дзмітры Мікалаевіч
Гняткоў Валеры
Голышаў Павел
Грузноў Валеры Іосіфавіч
Грынько М.У.
Гуркоў Сяргей Мікалаевіч
Дабравольская Наталля Міх.
Данілава Таццяна
Даніловіч Мар'яна
Даўматовіч Іван Уладзімір.
Дзянісаў Гальяш
Дрожынава Іна Аркадзеўна
Ермакова Святлана Сярг.
Ермалёнак Вітольд Антонавіч
Ермаловіч Святлана
Жмачынскі Аляксандр Вікт.
Жыгальская Вольга Анатол.
Залацілін Аляксандр Валер.
Звераў Юры
Звонік Святлана
Згурская Ганна
Здановіч Іван Юльянавіч
Зелянкевіч Наталля
Знавец Павел Кірылавіч
Зуёнак Васіль Васільевіч
Ільініч Наталля Валянцінаўна
Ішчанка Кацярына Сяргееўна
Кавалёнак Л. П.
Казлова Алена
Казлова Святлана Мікал.
Казляк Любоў
Калеева Вераніка Уладзімір.
Каракін Андрэй Анатольевіч
Кардаш Наталля Аляксандр.
Кароткі Мікалай Мікітавіч
Карп Алена Аляксандраўна
Картавенкава Галіна Пятр.
Карчэўскі Анатоль
Касяк Кастусь
Кобер Таіса
Корзун Валянціна
Коцікаў Ян
Краснеўскі Віталь Сяргеевіч
Краўчанка Сяргей Кастан.
Краўчук Маргарыта Дзмітр.
Крываручанка Ігар Мікал.
Крывашэеў Зміцер Сяргеевіч
Крывёнак Міхаіл Фадзеевіч
Ксянзоў Кірыл Уладзіміравіч
Кузяцоў Ігар Мікалаевіч
Кулак Жанна Язэпаўна
Кульбеда Дзміты Сярг.
Кульбіцкі Пятро С.
Кундас Ганна
Кухарчык Пётр Андрэевіч
Лабадзенка Глеб Паўлавіч
Лагутаў Віталь
Лажкова Наталля
Лапановіч Андрэй Васільевіч
Лапкоўскі Алег Мікалаевіч
Лаўнікевіч Дзяніс Эдуардавіч
Лесавы Кірыл
Лецяга Ігар
Ліннік Міхаіл Аляксандравіч
Ліннік Сяргей Мікалаевіч
Літвіненка Аляксандр
Лукін Ілля Міхайлавіч
Лявіцкі Антон Мікалаевіч
Макарыч Максім Міхайлавіч
Макоўская Алена
Максімава Кацярына
Маоклы Дзяніс Ігаравіч
Мароз Наталля Алегаўна
Марчанка Пётр Георгіевіч
Машанскі Аляксандр Іванав.
Машынская Ірына Антонаўна
Мікалаеўская Анастасія Іван.
Місцюк Уладзімір Мікал.
Місцюкевіч Аляксандр Іван.
Млынарчык Марыя
Молчан Барыс Валянцінавіч
Мулашкіна Лізавета Дзмітр.
Муха Анатоль Міхайлавіч
Навіцкі Пётр Лявонавіч
Найдзёнава Вера
Нашкевіч Дар'я Іванаўна
Недзялкаў Ярослаў
Нікалаеўская Вольга Ігараўна
Ніканові Васіль Васільевіч
Новікава Марыя Сяргееўна
Пазняк Жанна
Панізнік Алена Іванаўна
Паплыка Аляксандра Сярг.
Парда Аліна Іванаўна
Пастарнак Барыс Натанавіч
Паўлоўская Ганна Валер'еўна
Пашкевіч Алег Эдуардавіч
Пашкевіч Мікалай Іванавіч
Пашкевіч Таццяна Валер'еўна
Піскун Андрэй Анатольевіч
Пракоф'ева Юлія
Прыбыткова Святлана
Пузанкевіч Сяргей Уладзім.
Пяткоўская Алена Іосіфаўна
Пятроў Аляксандр Аляксан.
Радзівонава Ірына Яўгенаўна
Радчук Віталь Дзмітрыевіч
Рамук Алена
Рашчэўскі Віталь Часлававіч
Розін Дзмітры Барысавіч
Рудовіч Мікалай
Русаў Пятро Аляксандравіч
Рымша Алесь Георгіевіч
Савік Мікола Пятровіч
Савіна Анастасія
Сагалец Ілля Фёдаравіч
Сакалоўскі Уладзімір
Самасюк Аляксандр Міхайл.
Сарокін Арцём Адамавіч
Семяненка Максім Уладзім.
Сінцова Таццяна
Скупановіч Уладзімір Леанід.
Смаль Валянцін Мікалаевіч
Смола Таццяна
Стрыгельская Наталля Анат.
Сухаверхі Міхаіл Пятровіч
Сыч Ніна Лявонцьеўна
Сяменчык Настасся Мікал.
Сяркоў Андрусь
Сяткоўская Вераніка Уладз.
Талапіла Алесь Львовіч
Талатай Святлана
Талерчык Тамара Васільеўна
Танкевіч Аляксандр Яўген.
Ткачова Вольга
Трапашка Марыя
Трацяк Вера
Тумаш Генадзь
Тупік Кацярына Віктараўна
Усцінава Людміла Нікіфар.
Хасанаў Ігар
Храпавіцкая Тамара Аркадз.
Хрол Часлаў Часлававіч
Цітко Валянцін Уладзіміравіч
Ціцянкова Галіна
Цішкевіч Вольга Іосіфаўна
Цішко Валянцін Уладзімір.
Цыганкоў Генадзь Васільевіч
Цюшкевіч Сяргей Анатол.
Чапля Данута
Чарнышоў Алесь Ігаравіч
Чарткоў Мікола Алегавіч
Чыгір Клаўдзія Сцяпанаўна
Чысцякоў Аляксей Уладзім.
Шалупенка Васіль Іванавіч
Шарашовец Аляксандр Мік.
Шумскі Ягор Аляксандравіч
Шусціцкі Тадэвуш Віктар.
Шымірка Анатоль
Шыпай Аляксандра Генадз.
Шычко Валянціна
Шычко Святлана Вячаслав.
Шэравера Руслан Уладзімір.
Юран Антон
Язерскі Сяргей
Ярмац Аляксандр Аляксан.
Яўцюшкіна Таццяна Алякс.
Ячычка Віктар

# Прэмію імя Васіля Быкава атрымалі Алесь Белакоз і Лявон Вольскі

Лаўрэатамі прэміі імя Васіля Быкава "За свабоду думкі" сёлета сталі краязнаўца, стваральнік і шматгадовы дырэктар незвычайнага краязнаўчага музея ў вёсцы Гудзевічы, што ў Мастоўскім раёне на Гарадзеншчыне, настаўнік беларускай мовы Алесь Белакоз і музыка, лідар гурта "Крамбамбуля" Лявон Вольскі.







Алесю Белакозу прэмія прысуджаная за тое, што ён плённа працаваў на карысць беларушчыны цягам усяго свайго жыцця. Ён стварыў краязнаўчы музей у вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна, дзе ён жыве, займаецца краязнаўствам, піша кнігі і ўвогуле, як сказаў, прадстаўляючы яго мастак Алесь Пушкін - таксама колішні лаўрэат прэміі - яшчэ ў 1948 годзе раскідваў антысавецкія ўлёткі, змагаючыся за свабоду Беларусі.

- Я за яго дзвюма рукамі, таму што Белакоз стварыў "ціхі вычын" сваім жыццём. У сваёй вёсцы, працаваў гадамі - тое, што нам цяпер і трэба ставіць у прыклад! Яшчэ хлопчыкам ён думаў пра нашу незалежнасць!

Атрымаўшы прэмію "За свабоду думкі", сам лаўрэат прызнаўся, што яму не дужа даспадобы мітусьня вакол гэтае падзеі. Алесь Белакоз лічыць, што яго прызванне і жыццёвая задача - рабіць добрыя, карысныя справы:

- Я часам і за спрэчку! Таму званне там нейкае - няважна. Трэба рабіць нешта істотнае, нешта канкрэтнае!

Другі лаўрэат прэміі "За свабоду думкі" лідар гурта "Крамбамбуля" Лявон Вольскі не змог прыехаць у Бычкі. Пра яго прысутным расказаў пісьменнік Уладзімір Арлоў:

- Калісьці я вяртаўся з канцэрту "Песняроў", тады яшчэ "Лявонаў", зусім іншым чалавекам - я адчуваў, як ува мне прарастае маё беларускае зерне. Музыка, і найперш рок-музыка можа ўплываць на лёсы нават не асобных людзей, а цэлых пакаленняў. І калі мы глядзім на нашу гісторыю і культуру, то ў "нашых шыротах" на лёсы цэлых пакаленняў паўплываў гурт "NRM" і яго шматгадовы кіраўнік Лявон Вольскі. "NRM" - гэта не толькі беларуская музыка, але і беларуская мова, беларуская культура, беларуская ідэя і ўрэшце беларуская будучыня.

Падчас уручэння прэмій старшыня руху "За свабоду" Аляксандар Мілінкевіч заявіў, што яму вельмі прыемна за такі выбар журы. Галасы падзяліліся пароўну - за Лявона Вольскага і за Алеся Белакоза. Гэта засведчыла, што ў Беларусі свабода думкі невычэрпная. Бо пераможцы - прадстаўнікі цалкам розных пакаленняў і розных сфераў культуры, але адной справы - свабоды Беларусі, - сказаў Аляксандар Мілінкевіч.

Пасля ўручэння прэміі адбыліся літаратурныя чытанні. І, бадай, самай пачэснай госцяй свята, як і ўсе мінулыя гады, была сястра Васіля Быкава, Валянціна Ўладзіміраўна. Яна таксама выступіла перад прысутнымі, падзяліўшыся ўспамінамі пра брата.

У вёску Бычкі Вушацкага раёна паводле традыцыі з'ехаліся прыхільнікі таленту пісьменніка, дэмакратычныя актывісты, сучасныя літаратары. Кожны ахвотны мог наведаць музей, створаны ў Бычках некалькі гадоў таму: на месцы старой хаты, дзе прайшло маленства пісьменніка, паводле таго самага плану збудавана новая. І цяпер у ёй экспануюцца рэчы Васіля Быкава, стала працуе выстава яго кніг, а таксама кніг і карцін, падораных музею наведнікамі.

У дзень народзінаў пісьменніка ў Бычках, таксама ўжо традыцыйна, пішуць агульнанацыянальную дыктоўку. Сёлета гэта быў тэкст з кнігі "Быкаў на "Свабодзе". І яшчэ па дарозе для тых, хто ехаў у Бычкі з Менска, у замоўленым аўтобусе некалькі гадзінаў пасажыры слухалі аўдыёдыск, выдадзены Беларускай службай "Радыё Свабода" - запіс кнігі з сімвалічнай назвай "Доўгая дарога дадому".

Па сканчэнні афіцыйнай часткі адбыўся сяброўскі абед у гонар дня народзінаў Васіля Быкава. Гэта таксама ўжо традыцыя, калі за адным сталом на ўгодкі пісьменьніка збіраюцца ягоныя аднавяскоўцы і госці з усяе Беларусі.

***Наш кар.***

# Памяці ксендза Адама Фалькоўскага

24 чэрвеня ў Лідскім фарным касцеле адпраўлена памінальная імша па герою паўстання 1863 года ксендзу Адаму Фалькоўскаму.

Роўна 149 гадоў таму назад 24 чэрвеня 1863 года пробашч касцёла ў Ішчалне Лідскага правету (цяпер Шчучынскі р-н) быў расстраляны царскімі карнікамі ў Лідзе за тое, што зачытаў у касцеле маніфест Нацыянальнага ўраду і заклікаў народ да паўстання.

Памяць ксендза Адама Фалькоўскага з даўніх часоў шануецца ў Лідзе. У 1920 годзе быў пастаўлены крыж на магіле, магілу даглядалі харцэры, але з прыходам савегаў у 1939 годзе крыж быў знесены.

З 1996 года пачался змаганне за аднаўлення помніка на магіле Адама Фалькоўскага і на Дзяды 2010 года памятны знак быў усталяваны і асвечаны, а ў Фарным касцеле пачлі служыць памінальную імшу кожныя 24 чэрвеня.

На наступны год, 150-ты год ад паўстання плануецца набажэнства ў гарадскім парку каля магілы А. Фалькоўскага.

***Наш кар.***

# Памяці Міхала Валовіча

У нядзелю **1 ліпеня** ў вёсцы Парэчча Слонімскага раёна, прадстаўнікі Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл, а таксама ўсе беларусы нашай Бацькаўшчыны, адзначаць чарговыя ўгодкі з дня нараджэння кіраўніка паўстання 1830-1831 гадоў на Беларусі Міхала Валовіча (1806- 1833) і яго паплечнікаў.

Падчас ушанавання адбудзецца прэзентацыя новай кнігі Сяргея Чыгрына "Такі іх лёс", а таксама шахматны турнір і канцэрт.

Арганізатары запрашаюць усіх ахвотных прыняць удзел у мерапрыемстве. Збор удзельнікаў будзе адбывацца ў 10:30 у Слоніме, каля кінатэатра "Мір".

Пачатак мерапрыемства ў вёсцы Парэчча каля памятнага крыжа ў гонар паўстанцаў у 11гадзін.

Тэл. для даведак: 8(029) 327-63.

*Леанід Лаўрэш*

# Вайна 1812 г. у Літве і на Лідчыне

**"О год, прызваны ў нас і надзвычайным,**
**І векапомным годам ураджайным!"**
*А. Міцкевіч (пер. Я. Семяжона.)*

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

12 жніўня было вырашага сфармаваць 6 егерскіх (стралецкіх) батальёнаў па 6 рот , у кожнай роце па 9 афіцэраў і унтар-афіцэраў і 130 шарагоўцаў. Для фармавання гэтых батальёнаў Вайсковая камісія вырашыла мабілізаваць 2/3 усіх ляснічых Княства, якія не праходзілі дадатковага шыхтавання, бо па сутнасці гэта была ірэгулярная пяхота. Егерам выдавалася зялёнае абмундзіраванне. Зброя - ружжо і сякера. Акрамя харчавання кожнаму жаўнеру плацілі 10 грошаў. Абмундзіраваны яны былі ў зялёную сярмягу з зялёным каўняром і адваротамі, суконныя порткі, скураныя боты і шапку. У верасні было вырашана ўліць гэтыя батальёны ў склад рэгулярнага войска, у лістападзе з іх пачалі фармаваць два егерскія палкі па тры батальёны, аднак паспелі сфармаваць толькі адзін полк з 1-га і 2-га батальёнаў пад камандаваннем Касакоўскага. 3-ці батальён Плятэра так і не быў уведзены ў склад егерскага палка і да снежня працягваў фармаванне ў Віленскім дэпартаменце. У Гарадзенскім дэпартаменце фармаваўся 4-ты батальён на чале з маёрам Курчэўскім, але да снежня 1812 г. завяршыць яго арганізацыю не паспелі, 5-ы і 6-ы засталіся толькі на паперы. У Гарадзенскім дэпартаменце налічвалася 108 стралкоў, у Лідскім - 84, у Берасцейскім - 20, а ўсяго разам - 212 чалавек .

Ігнат Манюшка атрымаў дазвол сфармаваць за свой кошт кавалерыйскі полк і 22 верасня ў "Літоўскім кур'еры" была надрукавана ягоная адозва, полк атрымаў назву 21-га коннага-егерскага. Камандзірам палка стаў сам Манюшка, які атрымаў чын падпалкоўніка. Рудольф Тызенгаўз пры дапамозе капітана Кастравіцкага за свой кошт сфармаваў у Вільні батарэю коннай артылерыі. Яна налічвала 124 чалавекі і 131 каня і павінна была атрымаць на сваё ўзбраенне 12 гармат, потым гэтая батарэя была ў складзе войск Княства Варшаўскага.

Асабіста для Імператара пад кіраўніцтвам князя Агінскага была сфармавана Ганаровая гвардыя з 20 маладых шляхціцаў самых вядомых родаў Літвы, гэтая варта суправаджала Напалеона ў Маскву.

Для забеспячэння харчаваннем, былі створаны вялікія склады ў Лідзе і Навагрудку. 8 жніўня Часовы ўрад загадаў стварыць харчовыя склады ў Скідалі, Шчучыне, Беліцы і Турцы, кожны на 10000 порцый. 13 жніўня гэтае распараджэнне было зменена, вырашана павялічыць запасы ў Гародні, Лідзе, Навагрудку, а ў іншых складах мець сена, салому, гарэлку і жывую жывёлу.



***Дамінік Еранім Радзівіл** (1786-1813). Сын Ераніма Радзівіла і прынцэсы Турн дэ Таксіс, траюраднай сястры імператрыцы Марыі Фёдараўны. Пляменнік Караля Станіслава Радзівіла - "Пане Каханку".*

*Да паходу Напалеона на Маскву Дамінік Радзівіл быў камергерам двара рускага імператара Аляксандра І. Пры наступленні Напалеона ён прысягае Напалеону на вернасць. У 1812 г. ён на свае сродкі падрыхтаваў полк уланаў для Напалеона І. На чале гэтага палка Дамінік Радзівіл першым увайшоў у вызваленую Вільню.*

*Удзельнічаў у паходзе на Маскву. Пасля паразы Напалеона, Дамінік Радзівіл быў змушаны пакінуць Радзіму. Ён паспеў з'явіцца ў Нясвіжскім замку і аддаць распараджэнне свайму эканому схаваць княжую скарбніцу ў загадзя абумоўленае месца. Рускія войскі пад кіраўніцтвам адмірала Чычагава, якія ўступілі ў Нясвіж, ведалі пра схованку і спрабавалі яе адшукаць.*

*Памёр Дамінік Радзівіл у Францыі ад ран, атрыманых у бітве пры Ганаў.*

*За тое, што Дамінік Радзівіл ваяваў на баку Напалеона І, яго маёнткі былі секвестраваны Расійскай Імперыяй.*

*У гады Вялікай Айчыннай вайны скарбы Радзівілаў, схаваныя Дамінікам, шукалі немцы. Усе наступныя гады пошукам княжага скарбу займаюцца археолагі, чорныя капальнікі і проста авантурнікі.*

**Ліда і лідзяне**

Не гледзячы на цяжкасці, насельніцтва радавалася.

Геніяльны паэт Адам Міцкевіч, успамінаючы ў сваім "Пане Тадэвушу" 1812 год, пісаў:

*Хапае моладзь зброю -*
*стрэльбы і ягдташы,*
*А маткі паўтараюць*
*чутае з амбона:*
*"З Напалеонам Бог,*
*і нам - з Напалеонам!"*

Ва ўспамінах самога Міцкевіча, яго сяброў і аднагодкаў захаваліся надзвычай яркія карціны настрояў і чаканняў, звязаных з Напалеонам. Напалеона ў нас чакалі, можа быць яшчэ больш горача, чым у свой час у Варшаве.

Паўстанец 1863 г. М. Нарбут у сваіх мемуарах "Ліда і Лідзяне" пісаў: *"Пад час уваходу ў 1812 годзе ў Літву французаў, амаль уся тагачасная маладая шляхта Лідчыны аб'ядналася пад айчыннымі харугвамі. Некаторыя вярнуліся пакрытыя ранамі, іншыя палеглі ў бітвах, а былі і такія, як Каспер Длускі, якія падаліся потым у Амерыку і там біліся за свабоду. Длускі, вярнуўшыся з Амерыкі паранены, стаў ксяндзом. Быў пробашчам у Навагрудку, а ў 1831 годзе пакінуў месца пробашча і, як каплан мясцовага аддзелу паўстанцаў пад кіраўніцтвам Кашыца, сеў на каня. Потым эміграваў з польскім войскам у Францыю. У 1855 годзе пасля амністыі вярнуўся дадому, і тут, у Наваградскім павеце, у свайго ваеннага сябра Уладзіслава Брахоцкага - маршалка Навагрadскага …., скончыў свой слынны жыццёвы шлях".*

Дзеля найхутчэйшага стварэння войска Часовы ўрад ВКЛ накіраваў у паветы дэлегатаў "агульна вядомых сваёй верай і патрыятызмам". У паветы: Лідскі, Ваўкавыскі, Навагрудскі, Слонімскі быў накіраваны Сегень. У выніку падпрэфект Лідскага павету Скіндар быў адстаўлены, а на ягонае месца прызначаны Райскі. З тэрыторыі Лідскага павету рэкруты ў асноўным ішлі ў два палкі - 20 полк пяхоты Адама Бішпінга з штабам у Слоніме і ў 19 полк уланаў Канстанціна Раецкага са штабам у Навагрудку. Стварэнне гэтых палкоў ішло дастаткова хутка. 20-ты полк пяхоты потым меў найвялікшую колькасць жаўнераў з усіх літоўскіх палкоў, а полк Раецкага быў гатовы ваяваць ужо ў кастрычніку. Адным з галоўных арганізатараў палка ўланаў быў стары воін, капітан Ксавэры Рымша. Для абмундзіравання палкоў па ўсяму краю вышуквалася сукно, скура і г.д. Таксама лідзяне паступалі на службу ў кавалерыйскі гвардзейскі полк генерала Яна Канопкі, у егерскі батальён, створаны з былых ляснічых, у батарэю коннай артылерыі Рудольфа Тызенгаўза і ў жандармерыю якую ў Гарадзенскім дэпартаменце ўзначальваў Міхал Радзівіл .

Ігнацы Яцкоўскі ў сваёй кнізе "Аповесць з майго часу", якая доўгі час лічылася мемуарнай, апісаў некалькі эпізодаў с жыцця 19 уланскага палка ў Навагрудку якім кіраваў палкоўнік Канстанцін Раецкі: *"....ніхто больш удала за Раецкага не мог быць прызначаным на палкоўніка, бо фізічна ён адпавядаў усім патрабаванням, неабходным для рыцара: фігура стройная і здароўе жалезнае. З маральнага пункту гледжання - гэта быў персаніфікаваны розум, які не ведаў аніякае слабасці, аніякага хвалявання; гонару быў незвычайнага, але без абразы для іншых, бо ні з кім не быў запанібрата і ніколі не выказваў свайго меркавання, хоць такое меў, што даказваў не словамі, а справаю. Замкнуты ва ўласнай шкарлупіне, не меў ані заўятых непрыяцеляў, ані шчырых сяброў..."*

Пра памочніка Раецкага капітана Рымшу: *"Рымша гэткі ж самы ганарысты, толькі ад прыроды кплівы, ці неасцярожны, як жыхар павету ведаў Раецкага з дзяцінства; давёўшы сваю мужнасць і цвярозасць розуму ў папярэдніх кампаніях, думаў, што возьме верх над сваім новым палкоўнікам, і сам … будзе камандзірам палка, пакідаючы тытул Раецкаму. Але апошні адразу разгадаў намеры і на першай нарадзе паказаў столькі ведання палкавое гаспадаркі, што Рымша ў той жа момант зразумеў, што мусіць быць падначаленым" .*

Раецкі набіраў афіцэраў і ад'ютантаў не раячыся з Рымшам. Было шмат ахвочых уступіць у полк і нават маладыя сяляне ахвотна станавіліся ў шэрагі. Яцкоўскі апісвае навучанне шыхту якое праводзіў капітан Рымша перад першым аглядам свайго палка палкоўнікам:

*"Рымша на досвітку сабраў на пляцы сваіх добраахвотнікаў у старасвецкіх кабатах, капотах і сярмягах; а ва ўсім невялікім мястэчку* (Навагрудку - *Л.Л.*) *адразу стала вядома, што будзе вайсковы парад… Рымша, расставіўшы сваю каманду ў дзве шарэнгі і скамандаваўшы: "Направа!", "Налева!", "Крок наперад!", "Крок назад!" - што не лёгка было выканаць згодна, стаў пасярэдзіне і закрычаў:*

*- Увага, полк! Як прыйдзе камандзір …. і запытаецца: "Як маецеся, дзеці?", адказвайце: "Здароўя жадаем камандзіру!" Потым - апусціць рукі малым пальцам да бёдраў (па-польску)! А тым часам у шарэнгах адзін другога штурхалі локцямі і пыталіся: "А што гэта ён кажа?"*

*Зразумеў Рымша, што слова "бядро" незразумелае для большасці ліцвінаў. Дык сам становіцца перад фронтам, энергічна апускае рукі і крычыць:*

*- Вось так! Малыя пальцы да клубоў! Не кланяцца нікому, стоячы ў шарэнзе! Не здымаць шапак! Разумееце цяпер?*

*А тут, як наперакор, прынамсі, чацвёртая частка навічкоў, мяркуючы, што інструкцыя скончаная, змяніла паставу і, хапаючыся за шапкі ды нізка кланяючыся, адказала:*

*- Разумеем, дабрадзею!*

*- Стаяць! Стаяць! - крычыць камендант. - А што ж я вам сказаў?*

*- А пан сказаў "не надзімаць" шапак, - адазваліся тыя, каго ён лаяў.*

*- Ціха! Зважай! Аніякіх у шэрагу размоваў! Няхай у вас пярун лясне, калі не разумееце па-польску! Стаяць проста, вось так!*

*І зноў выпрастаўся:*

*- Не кланяцца і не знімаць шапкі! Рукі прыціснуць да клубоў!*

*Але не было ўжо часу праверыць яшчэ раз гэтыя каманды, бо з Базыльянскае вуліцы ішоў палкоўнік.... Палкоўнік, выступіўшы наперад, выгукнуў, як прадказваў Рымша: "Як маецеся, дзеці?" Але няшмат хто памятаў інструкцыю і адказаў: "Жадаем здароўя камандзіру!" Большасць, схапіўшыся за шапкі, закрычала: "Няхай будзе пахвалёны Хрыстус!" альбо "На векі вякоў. Аман"....*

*Палкоўнік, нібыта не зважаючы на неналежныя паводзіны, якія ў хуткім часе выправяцца, і не камандуючы: "Крок наперад!", "Крок назад!" - пачаў іх аглядаць з фронту. А заўважаючы людзей са сваіх вёсак, якія стаялі ў адной або другой шарэнзе, пытаўся: "А ты, Юрка, што тут робіш? І ты, Яська, тут? А ці не пойдзеце дадому сваю раллю араць? Гляньце, і яны сабраліся на вайну! Ідзіце мне зараз жа дадому!" І больш за дзесятак падобным чынам настрашаных, названых па імёнах са смуткам пакінулі шарэнгі. Закончыўшы на гэтай селекцыі ўвесь свой агляд, … дадаў, каб выказаць сваю павагу: Дзякую пану, пан капітан, усё ў парадку, няхай жа іх пан муштруе" .*

Яцкоўскі апісвае жарт, які ўчынілі аднапалчане над сваім баявым таварышам, лідскім шляхціцам: *"У двары Гнаінскіх, які знаходзіўся насупраць францішканскага кляштару, … месцілася каля трох дзесяткаў маладых людзей, сярод якіх быў … Багушэвіч, юнак з шляхетнае сям'і з Лідскага павету, флегматычнага тэмпераменту, таўсматы; ён вельмі любіў навуку. Анішто пустое яго не цікавіла, і калі іншыя вечарам бавіліся картамі альбо шклянкаю, ён распранаўся, клаўся ў свой ложак ды браў у рукі кніжку, досыць значную колькасць якіх меў з сабою, і чытаў, пакуль не засынаў. …*

*Меў ён слугу, які чысціў яму адзенне і складваў у парадку, а прачытаныя кніжкі забіраў у клункі.*

*Пэўнага ранку прыходзіць аднаму з калегаў - Міхалу Корбуту - ідэя пажартаваць з Багушэвіча. Дык паклікаўшы шарагоўца Янкоўскага, які быў па прафесіі краўцом …, шапнуў яму, каб завузіў Багушэвічу порткі і мундзір, хутка сфастрыгаваўшы швы па баках. … Калі гэта зрабілі, дык пра ідэю адразу расказалі іншым калегам, каб пераконваць Багушэвіча, што ён апух… . І дамовіўшыся, у адпаведнасці з гэтым планам, самім удаваць сонных, штурханулі Багушэвіча, каб ён прачнуўся.*

*Багушэвіч, першы раз у сваім жыцці прачнуўшыся, як яму здавалася, вельмі рана, помсцячы за даўнейшыя жарты і турботы, пачаў будзіць іншых, каб уставалі, і кожны абуджаны, нібы спрасонку, праклінаў Багушэвіча, што іх непакоіць, але адзін за другім, як бы нехаця падняўшы на яго вочы, крычалі:*

*- Што з табою, Богуш? - Бо гэтак яго коратка называлі. - Як ты апух!*

*І зноў клаліся спаць.*

*Багушэвіч, якога ўжо столькі разоў раней падманвалі, лічыў гэта за жарт і не верыў гэтаму, бо адчуваў сябе як найлепей (і) … праз нейкую хвіліну гукнуў лёкая, каб даваў яму апранацца.*

*Той, не ведаючы нічога пра змову, у прастаце душы, падстаўляе яму, як гэта называлася ў той час, панталоны, але нага толькі да паловы ўлазіць, а далей не ідзе.*

*- Што гэта такое, Янку, - закрычаў спалоханы Багушэвіч. - Ці я не апух? …*

*- Пакажы мне, ці гэта не чужыя?*

*А пабачыўшы на падкладцы ўласнаю рукою напісанае сваё імя і прозвішча, упаў на ложак і абліўся потам. Лёкай, які быў моцна прывязаны да свайго пана, трымаючы ў руках тыя няшчасныя порткі, не спускаў з яго вачэй. Урэшце ўстрывожаны пан жаласна закрычаў:*

*- Янку, я захварэў, кінь тое, што трымаеш у руках, і бяжы па доктара.*

*Што ён не трацячы часу і выканаў.*

*Усю тую размову чулі, нібыта сонныя, маладыя свавольнікі, і толькі тады адзін за другім, нібы абуджаючыся, пытаюцца:*

*- Што з табою, Богуш?*



**Ладунка афіцэра 19-га палка літоўскіх уланаў**





*Леанід Лаўрэш*

# Вайна 1812 г. у Літве і на Лідчыне

*Але Багушэвіч ні слова не адказваў ім на гэта, толькі цяжка ўздыхаў. ...*

*- Ці ж вы не бачыце, што я захварэў?*

*- Які ты там хворы! - кажуць іншыя. - Аб'еўся ўчора, а сёння на муштру ісці не хочаш!*

*На гэты закід Богуш не адказаў.*

*А тут і доктара прывёў запыханы лёкай. Той, наблізіўшыся да пацыента, пытаецца ў яго паважна:*

*- Што з панам такое?*

*Багушэвіч адказвае:*

*- Я сам не ведаю, але мне здаецца, што гэта вадзянка.*

*- Хто гэта пану сказаў? - пытаецца доктар.*

*А ён яму на гэта:*

*- Навошта пытацца пра тое, што відаць.*

*Доктар пытаецца, ці баліць яму што. Маркотны Багушэвіч адказвае, што нічога.*

*Доктар лічыць яму пульс, пульс - добры. Дык пытаецца яго зноў:*

*- Што ж дало повад думаць, што гэта вадзянка? Ці не саснілася яму гэта?*

*- Дзе там саснілася! - адказвае Богуш. - Дык жа ногі так апухлі, што не лезуць у порткі.*

*- Пакажы ж мне, пан, свае ногі.*

*Богуш, асцярожна адхіліўшы коўдру, выстаўляе сваю мясістую лытку. А тут ужо ўсе калегі абступілі ложак пацыента і пераконваюць, што Богуш прыкідваецца. Доктар пацiскаў пальцам у нагу і кажа, што цела здаровае, а Богуш сцвярджае іншае.*

*Тым часам Янкоўскі, уціснуўшыся паміж гледачамі, выцягнуў нітку з аднае і другое калашыны і паклаў порткі на ранейшае месца. Доктар, раззлаваны ... кажа:*

*- Хто пана ўпаўнаважыў тэрмінова падымаць мяне і весці сюды, калі не было прычыны?*

*Багушэвіч тлумачыць, што ён апух, і што ягоныя ногі не лезуць у порткі.*

*Доктар заяўляе, што хацеў бы гэта пабачыць, а пацыент стаіць на сваім, што і спрабаваць няма чаго, бо ён упэўнены ў сваёй апухласці. Нарэшце, каб пераканаць доктара ў факце, кліча Янку:*

*- Падай порткі!*

*Янка зноў іх падставіў яму, але - О! дзіва! - улезлі ў іх ногі без аніякае цяжкасці. Богуш крычыць:*

*- Янку, што гэта такое?*

*Янка адказвае:*

*- Я не ведаю, пане.*

*- Аднак жа ногі раней не лезлі?*

*- Не лезлі, пане.*

*Доктар, страціўшы цярпенне кажа:*

*- Пане, пан з мяне пажартаваў, а я ў пана не заслужыў на гэта. Дык заяўляю пану, што буду скардзіцца на яго палкоўніку.*

*Калегі бяруць на сябе ролю пасярэднікаў і нацiскаюць на Багушэвіча, каб заплаціў доктару і захаваў сакрэт. Богуш, які не мог зразумець, што з ім сталася, дастаў дукат, упіхнуў доктару ў руку і, калі той адыходзіў, самым пераканаўчым чынам яго запэўніў, што гадзіну таму насамрэч быў апухлы.*

*Пасля таго, як доктар выйшаў, - калегі ў смех і сцвярджаюць, што Богушу апрыкла ўжо вайсковая служба, і ён хоча вызваліцца ад яе, выдумаўшы сабе хваробу. Але той, засмучаны, не адказвае, спяшаецца з туалетам, каб як хутчэй пазбыцца калегаў. Моўчкі памыўшыся і выцершыся, ён напаўголаса кліча Янку, каб падаваў яму мундзір. Янак падае мундзір, але, уздзеўшы, той не хоча зашпіляцца ніякім спосабам. Дык Богуш крычыць:*

*- Янку! Што тут за халера? ...*

*Але цяпер ужо, узяўшыся той мундзір уважліва разглядаць, абодва разам выкрылі нітку-фастрыгоўку, што звужала шво на плячах. Толькі цяпер раз'ясніўся твар Богуша, пачаў ён смяяцца разам з іншымі, бо не быў запальчывы, і кіраваўся больш непакоем пра ўласнае здароўе, каб мог служыць Айчыне, чым якою помстаю*

*... праз два гады шмат хто з тае самае моладзі, ужо ў чыне афіцэраў, пасля завяршэння вайны, вярнуўся дадому аздоблены крыжамі. Між імі быў і Багушэвіч, бо даказаў пры нагодзе, што мог быць мужны, і яго любілі ўсе калегі".*

15 жніўня ва ўсіх беларускіх гарадах былі зладжаны ўрачыстасці з нагоды дня нараджэння Напалеона. Пра святкаванні у Лідзе пісаў "Kurier Litewski" № 68, 1812: *"15 жніўня дзень нараджэння і тэзаімянінства Яго Імператарскай Вялікасці, Найусеміласцівага Імператара і Караля Вялікага Напалеона, быў адсвяткаваны ў нас у Лідзе з пышнасцю, прыстойнай нашага вялікага збавіцеля. Словы, вымаўленыя гэтым Манархам, што ён уступае ў зямлю Ягелонаў, каб вызваліць яе ад ярма рабства, абудзілі ў жыхарах Літвы самыя шчырыя пачуцці адданасці, падзякі, павагі, пакланення і здзіўлення. Пачаўся і скончыўся гэты знамянальны дзень наступным чынам: У 10 гадзін раніцы, падпрэфект Лідскага павету, Ігнацы Скіндар, акружаны абывацелямі і мясцовымі службоўцамі розных ведамстваў, адправіўся з прэфектуры ў Фарны касцёл для прынясення самых гарачых малітваў Каралю Каралёў за цуд, створаны Яго творчай правіцай для нашай Радзімы.*

*Шматлікія дамы занялі ў касцеле пярэднія месцы, а натоўп простага народу напоўніў бакавыя прыдзелы. Па знаку, дадзенаму гарматным стрэлам, у Касцёл увайшоў атрад размешчанага ў горадзе 14 палка фузілераў і пашыхтаваўся пасярэдзіне касцёла ў два шэрагі. Прыгожы выгляд жаўнераў і іх пакорлівыя паводзіны перад алтаром Усявышняга расчулілі ўсіх прысутных, якія ўжо больш за дваццаць гадоў не бачылі свайго войска.*

*Пасярэдзіне храма быў усталяваны транспарант з вензелем Найусеміласцівага Імператара і Караля з надпісам пад вензелем: "Magne Cesar! Vive diu felix locuplexque omnium prosperitatum".*

*Пасля другога гарматнага стрэлу пачалася абедня, якую служыў, са шматлікім клірам, Станіслаў Нарбут, канонік Смаленскі і ён жа пробашч Косаўскі. Падчас набажэнства патрыятычную і адпаведную акалічнасцям прамову сказаў ксёндз Гаўлоўскі, прафесар мясцовай вучэльні піяраў.*

*Пасля блаславення Св. Дароў, пасля трэцяга гарматнага стрэлу, атрад войска выйшаў з касцёла і пашыхтаваўся на могілках, дзе Вікенці Нарбут, канонік Інфлянтскі, пробашч і дэкан Лідскі, са шматлікім клірам праспявалі "Te deum", пад бесперапынны салют з гармат і ручной агністрэльнай зброі. Пасля Набажэнства ўсе прысутныя былі запрошаныя на абед да падпрэфекта.*

*Увечар, на шырокай Віленскай вуліцы была бачна трохкантовая піраміда, упрыгожаная шматлікімі агнямі.*

*На пярэднім боку яе гарэў транспарант з вялікім вензелем Імператара і Караля, унізе быў надпіс: "Найяснейшаму, Магутнейшаму, Непераможнаму Герою, Імператару і Каралю, Вялікаму Напалеону, свайму Збавіцелю, зямля магутных некалі Ягелонаў, вызваленая яго магутнай правіцай, жніўня 15 дня 1812 г.".*

*На паўночным баку піраміды, на транспаранце, было чатырохрадкоўе наступнага зместу:*

*"За нашу Айчыну*
*велікадушны мсцівец,*
*Ганарлівай Поўначы*
*магутны пераможца,*
*Хай польскі Арол*
*і Літвы Пагоня*
*Служаць тваім*
*намерам, Напалеон!"*

*На трэцім баку піраміды, звернутай да сцен старажытнага замка, якіх не маглі разбурыць амаль пяць стагоддзяў, быў вершаваны надпіс:*

*"У нашых мурах*
*племя Ягелонаў*
*У пятнаццатым стагоддзі*
*атрымлівала перамогі.*
*Калі зараз татары*
*ўварваліся ў Радзіму,*
*Імя ліцвінаў*
*астрашыла ворагаў.*

*Цяпер прыйшоў герой Сусвету*
*Вызваліць вас, мужы,*
*ад кайданаў,*
*Спяшаецеся ж на поле славы,*
*Вярніце сабе зямлю,*
*правы і зброю.*

*Тады рака Лідзея*
*цякла крывёй чужакоў.*
*Цяпер з ёю змешваюцца*
*Нёман, Днепр і Дзвіна.*
*Спраўджваюцца надзеі*
*Пагоні,*
*Мінуў час нашага цярпення."*

*Пасля новага гарматнага стрэлу, шматлікія дамы і гараджане, быўшыя на абедзе ў падпрэфекта, адправіліся да піраміды, каб каля яе ўшанаваць таго, каму яна была прысвечана. Падчас агляду раздаваліся воклічы: "Жыве, на многія гады, Імператар і Кароль, Наш Збавіцель" і грукатаў салют з гармат і стрэльбаў. Пасля агляду піраміды і надпісаў, падпрэфект, разам з усімі гасцямі, вярнуўся дахаты, дзе адкрыў баль палянезам.*

*Вясёлыя танцы працягваліся да вячэры, на якой падпрэфект (пад бесперапынны салют з гармат і стрэльбаў) абвясціў тост за здароўе Найусеміласцівага Імператара і Караля. Усе прысутныя па чарзе паўтарылі гэты тост.*

*Асвятленне і ілюмінацыя вуліц ператварала ноч у светлы дзень. Вароты Фарнага касцёла былі хораша ўпрыгожаны зелянінай і агнямі.*

*Пасля вячэры баль у падпрэфекта працягваўся да світанку, а крыкі народа: "Жыве Імператар і Кароль, Вялікі Герай, Наш Збавіцель!" спыніліся толькі з узыходам сонца."*

У лістападзе падпрэфектам лідскага павету быў прызначаны Раецкі.

Дадам яшчэ некалькі ваенных біяграфій лідзян:

**Граф Ваўжынец Путкамер** (1794-1850), будучы уладальнік маёнтка Больценікі, муж Марылі Верашчакі, маршалак шляхты Лідскага павету ў 1847-49 гг., як раз паспеў у 1812 г. закончыць філасофска - матэматычны факультэт славутага Віленскага ўніверсітэта. Як большасць ягоных сяброў, Ваўжынец запісаўся ў зноў створанае войска Вялікага Княства, у гвардзейскі кавалерыйскі полк генерала Канопкі, а потым у полк лёгкай кавалерыі імператарскай гвардыі Вінцэнта Красінскага. Васямнаццацігадовы юнак быў з войскам Напалеона ў Маскве, выжыў у катастрофе на Бярэзіне. Адступаючы з войскам каля Вільні, заехаў дахаты і тут захварэў тыфам. А калі вылечыўся, вайна ўжо ішла далёка на захад ад дому. Гонар жаўнера і вера ў зорку Напалеона не дазволілі яму адседзецца ў хаце, праз тылы расейскіх войскаў, абмінуўшы казацкія патрулі, ён прабраўся ў Мерач на Нёмане і ў люты мароз перайшоў Нёман, па спустошанаму вайной краю Путкамер ішоў да сваіх. Час ад часу злазіў з каня і, каб сагрэцца, бег побач. Сілы ўжо пакідалі юнака, калі ён сустрэў інспектара дывізіі кавалерыі, які ехаў у Варшаву ў полк Красінскага. Афіцэр падабраў задубелага маладзёна і давёз яго ў полк.

Малады вайсковец ваяваў усю кампанію 1813 г., трапіў у прускі палон і пасля амністыі, у 1814 г. вярнуўся дахаты ў чыне паручніка. Напалеон застаўся кумірам Ваўжынца Путкамера да канца жыцця, потым ён часта расказваў: *"Вы маладыя, не разумееце, што з намі адбывалася... у нас ускіпела кроў, і мы былі здольныя на усё, калі вялікі чалавек ... у шэрым сурдуце галапіраваў перад фронтам нашага палка і паказваючы на непрыяцеля казаў: "Mes braves et fideles Polonais en avant!"*.

Параза пад Ватэрлоа прывяла Путкамера да гарачкі, а калі ён пачуў пра вяртанне імператара, так званыя "сто дзён Напалеона", дык ужо прыгатаваў свой уланскі мундзір гатовы быў ехаць ваяваць. Нават будучы ў сталым веку ніколі не мог спакойна расказваць пра тыя часы і пра Напалеона .

**Граф Ігнацы Тызенгаўз** (1750-1822), палкоўнік і шэф літоўскай гвардыі, за службу Вялікаму Княству Літоўскаму быў узнагароджаны ордэнамі Белага Арла і Св. Станіслава. Пад час Напалеонаўскай кампаніі атрымаў Залаты Крыж Ганаровага Легіёна. Ва ўладанні графа Ігнацыя, апроч Жалудка і Паставаў з навакольнымі вёскамі і фальваркамі, былі дзесяткі тысяч гектараў зямлі і населеныя пункты з тысячамі сялян у розных паветах. Быў жанаты на Марыянне Марыі Пшаздзецкай, меў трох дачок: Юзэфу, Эльфрыду і Эмеранцыю, і двух сыноў - Рудольфа (1783-1830) і Канстанціна.

**Граф Канстанцін Тызенгаўз** нарадзіўся 3 чэрвеня 1786 г. у родавым маёнтку ў мястэчку Жалудок. Верагодна ў 1804 г. паступіў у Віленскі універсітэт. Любімым выкладчыкам у маладога Тызенгаўза быў знакаміты батанік Станіслаў Баніфацы Юндзілл. Другім вядомым настаўнікам Канстанціна быў выдатны мастак Ян Рустэм, які ў гэты час працаваў ад'юнктам на кафедры малярства.

У 1812 г. 19-ты пяхотны полк, які фармаваўся ў Расіёнах, узначаліў 26-ці гадовы палкоўнік граф Канстанцін Тызенгаўз. Яго брат **граф Рудольф Тызенгаўз**, на свае грошы, сфармаваў конна-артылерыйскую роту. Канстанцін Тызенгаўз разам са сваім палком мужна змагаўся пад Вільняй, Кёнігсбергам, прымаў удзел у знакамітай абароне цвердзі Модлін, а потым і ў бітвах у Германіі. У 1813 г. ён быў узнагароджаны Крыжам Ганаровага Легіёна. Вайна для яго скончылася вясною 1814 г. Канстанцін Тызенгаўз спачатку застаўся ў гарадку Клермон, а пасля ўказу аб амністыі Аляксандра І ад 30 жніўня 1814 г., вярнуўся ў Паставы.

У гэтым 1815 г. Ігнацы Тызенгаўз падзяліў большую частку сваіх уладанняў паміж сынамі. Старэйшы Рудольф атрымаў Жалудок і бліжэйшыя да яго землі, а Канстанцін - графства Паставы з навакольнымі фальваркамі. Менавіта пры Канстанціне быў дабудаваны Пастаўскі палац Тызенгаўзаў. Паўстанцам 1831 г. дапамагаў матэрыяльнымі сродкамі і супрацоўнічаў з Дзісенскім Урадавым камітэтам.

Асноўным заняткам Канстанціна Тызенгаўза сталася заалогія, найперш - арніталогія. Ён з'яўляецца бацькам беларускай арніталогіі.

Месцам пахавання К. Тызенгаўза па адной версіі лічыцца родавы склеп у парафіяльным Жалудоцкім касцёле, па другой - крыпта касцёла св. Мацвея ў літоўскім горадзе Рокішкіс.

*(Працяг у наст. нум.)*



***Апалчэнцы (кантаністы) ВКЛ. 1812 г. Аўтар Кшыштаф Каманецкі.***

# Роля рэгіянальных музеяў у развіцці турызму
## (на прыкладзе Мсціслаўскага гісторыка-археалагічнага музея)

Сёння турызм уяўляе сабой складовую частку сучаснай культуры і побыту, гэта адзін з важных элементаў сучаснай глабальнай цывілізацыі, адна з форм актыўнага правядзення вольнага часу, дзейнасць па аднаўленні фізічных і духоўных сіл чалавека, спосаб зняцця стрэсаў, што ўзніклі ў працэсе паўсядзённай працы. Удзел у турызме спрыяе гарманічнаму развіццю асобы, як фізічнаму, так і духоўнаму.

Зараз, у наш складаны час, калі ў краіне назіраецца сістэмны крызіс, адным з варыянтаў развіцця нашай эканомікі з'яўляецца турызм, асабліва - замежны. Сёння турызм падзяляецца на рэкрэацыйны, адпачынкавы, лячэбны (медыцынскі), спартыўны, пазнавальны (культурны), дзелавы (прафесійны), кангрэсны (навуковы), рэлігійны (паломніцтва) і этнічны. Сярод вышэйпералічаных відаў турызму вядучую ролю займае культурна-пазнавальны турызм. Паводле дадзеных статыстыкі, яго доля сярод іншых відаў складае 60%. У адпаведнасці з Хартыяй ЮНЕСКА па культурнаму турызму, прынятай у лістападзе 1974 года, культурны турызм мае мэту азнаямлення з помнікамі і славутымі мясцінамі.

Калі мы звернемся да сусветнай статыстыкі і возьмем за аснову такі паказчык, як колькасць замежных турыстаў на 1000 жахароў краіны, беларускія журналісты палічылі, што ў Польшчы гэты паказчык роўны 400 турыстаў, на Украіне - каля 500, у Літве каля 850, Расіі - 160, а на Беларусі толькі 9 чалавек на 1000 жыхароў. Вось і адказ, чаму у нас зараз праблема з набыццём замежнай валюты.

У сваім інтэрвію газеце "Комсомольская правда в Белоруссии" у сакавіку 2011 года намеснік дырэктара дэпартамента па турызму Міністэрства спорту і турызма Андрэй Мартынаў паведаміў, што арганізаваных замежных турыстаў, што прыехалі ў Беларусь праз турфірмы ў 2009 годзе было 95,5 тысяч, а ў 2010 крыху болей за 120 тысяч, прычым большую частку турыстаў складаюць грамадзяне Расіі.

Адным з фактараў павялічэння замежнага турызму можа быць развіццё не толькі асобных турыстычных аб'ектаў, але і гістарычнага наваколля вакол іх. Вялікую ролю тут можа адыграць рэгіянальны турызм, як складовая частка рэспубліканскага, а таксама міжнароднага турызму.

Тут вельмі важна выкарыстаць патэнцыял мясцовых рэгіянальных музеяў, асяродкаў культурнага і мастацкага жыцця рэгіёна.

Выяўленчае мастацтва - адзін з найбольш важных элементаў культуры, які здольны сфарміраваць пераканаўчы матыў для турыстычнай паездкі. Сёння ўсё больш папулярным становіцца выстаўляць на вядомых курортах (у памяшканнях гасцініц) творы нацыянальнага выяўленчага мастацтва з мэтай знаёмства турыстаў з культурай рэгіёна. Гэта з поспехам робяць і мясцовыя музеі. Таксама дастаткова папулярнымі сталі фестывалі, якія шырока прадстаўляюць розныя віды і элементы нацыянальнага выяўленчага мастацтва.

Музычны патэнцыял рэгіёна з'яўляецца яшчэ адным прывабным элементам культуры. У некаторых краінах музыка выступае як асноўны фактар прыцягнення турыстаў. Вядомыя музычныя фестывалі штогод збіраюць тысячы ўдзельнікаў. Аўдыёзапісы з нацыянальнай музыкай, продаж якіх распаўсюджаны ў большасці турыстычных цэнтраў, служаць добрым сродкам знаёмства турыстаў з культурай народа. Зараз карыстаюцца вялікім поспехам і рыцарскія турніры ў старажытных беларускіх гарадах.

Літаратурныя помнікі рэгіёна таксама складаюць істотны турыстычны матыў і аснову арганізацыі рознапланавых турыстычных праграм і маршрутаў. Літаратурныя творы валодаюць сілай ствараць уражанні аб краіне і яе культуры. У забаўляльныя праграмы для турыстаў мэтазгодна ўключаць літаратурныя вечары. У межах пазнавальнага турызму рэкамендуецца арганізоўваць літаратурныя туры па месцах, звязаных з імёнамі аўтараў і героямі вядомых літаратурных твораў.

Паломніцтва - адзін з самых старажытных відаў падарожжаў, які вядомы чалавецтву не адно стагоддзе. Да 80% аб'ектаў турыстычнага паказу з'яўляюцца культавымі. Матывамі да паломніцкага падарожжа з'яўляюцца духоўнае імкненне наведаць рэлігійныя цэнтры і святыя месцы, асабліва паважаныя ў канкрэтнай рэлігіі, здзяйсненне культовых абрадаў. Нельга забываць і старажытныя могілкі.

Рэгіён, які прымае турыстаў, павінен прапаноўваць ім шырокі асартымент сувеніраў, выкананых мясцовымі майстрамі. Сувеніры - добрая памяць аб краіне.



*Мсціслаўскі фэст*

У некаторых турыстычных цэнтрах ствараюцца спецыяльныя крамы ў нацыянальным стылі, дзе мясцовыя майстры вырабляюць сувеніры непасрэдна ў прысутнасці пакупніка. Гэтая форма гандлю сувенірнай прадукцыяй з'яўляецца своеасаблівай славутасцю рэгіёна і выклікае значную цікавасць у турыстаў. Трэба, каб гэтыя крамы былі побач з мясцовым музеем, альбо ў самім музейным памяшканні.

Такім чынам, культурны патэнцыял рэгіёна ўвасоблены ў яго культурнай спадчыне. Аднак для паспяховага развіцця культурнага турызму нацыянальныя турыстычныя арганізацыі павінны займацца распаўсюджваннем інфармацыі аб гістарычным патэнцыяле мясцовасці.

У якасці прыкладу разгледзім дзейнасць Мсціслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея, да стварэння якога аўтар меў непасрэднае дачыненне. Музей быў заснаваны ў ліпені 1988 года ў будынку былой уездный пошты пачатку XX стагоддзя. Яго пастаянная экспазіцыя створана ў 1995 годзе і мае два раздзелы: "Мсціслаў - імя старажытнае" і "Сацыяльна-эканамічнае развіццё Мсціслава ў XII - пачатку XX ст". Надаўна філіялам музея стаў мемарыяльна-літаратурны музей братоў Гарэцкіх у вёсцы Малая Багацькоўка Мсціслаўскага раёна. Музей мае больш за 12 тысяч адзінак захоўвання асноўнага фонду. Гэтыя археалагічныя знаходкі розных часоў, вялікая калекцыя мсціслаўскай кафлі XV - XVIII стст. і мсціслаўская шкла XVI - XIX стст. У экспазіцыі багата прадстаўлены мсціслаўскі посуд XII - XIX стст., а таксама абразы XIX ст. Вельмі цікавыя і этнаграфічныя калекцыі, асабліва народнае адзенне, якое прадстаўлена экспанатамі Мсціслаўска-Клімавічскага строю беларускіх сялян. Вялікую ролю музей мае ў арганізацыі розных культурных падзей у рэгіёне.

Так, у 2001 годзе ў Мсціславе адбыўся Міжнародны пленэр па жывапісу "Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве". Творы ўдзельнікаў пленэра папоўнілі музейную калекцыю.

Музычная школа горада, якая носіць імя кампазітара Чуркіна, які пэўны час жыў у Мсціславе, рэгулярна ладзіць розныя музыкальныя імпрэзы. У горадзе рэгулярна адбываюцца рыцарскія фэсты і фестывалі. Актыўна адзначалі жыхары горада і шматлікія госці "600 - угодкі перамогі войскаў ВКЛ і Польшчы над крыжакамі на Грунвальдскім полі". Рыцарскі фэст адбыўся на пляцоўцы славутай замкавай гары, на месцы, дзе і з'явіўся старажытны горад.

Фэст сярэдневечнай культуры нарадзіўся ў Мсціславе пяць гадоў назад, калі старшыня райвыканкаму запрасіў клуб ваенна-гістарычнай рэканструкцыі "Магілёўская дружына" паўдзельнічаць у Дні горада. 12 чалавек сяброў клуба прынялі ўдзел у гэтым свяце. Так адбылося першае на ўсходзе Беларусі свята з удзелам рацараў. Поспех у гараджанаў быў незвычайны. З тых часоў "Мсціслаўскі фэст" стаў брэндам. Крамы горада турысты бяруць прыступамі, дзверы музея не зачыняюцца, майстры народных промыслаў за 2-3 дні збываюць усе свае вырабы.

"Рыцарскі фэст - 2010" прайшоў 24 - 25 ліпеня з асаблівым размахам. Месцамі правядзення сталі гарадскі цэнтр Мсціслава, старыя муры езуіцкага калегіюма і кляштара і, вядома, замкавая гара. Акрамя рыцарскіх забаваў у праграму былі ўключаны канцэрты гурту "Стары Ольса", "Яварына", "Песняры". На замкавай гары быў урачыста адкрыты памятны знак мсціслаўскаму князю Сямёну Лунгвену, намесніку Вітаўта ў Грунвальдскай бітве.

15 ліпеня на Мсціслаўскім паштамце было зроблена спецгашэнне адмысловай маркі "600 - годдзе перамогі над Грунвальдам" прысвечанай памяці Сямёна Лунгвена.

Вабяць турыстаў і архітэктурныя помнікі Мсціслаўшчыны, асабліва славуты Пустанскі манастыр на мяжы з Расіяй, які наведваюць сотні паломнікаў з розных краін.

Цікавыя літаратурныя імпрэзы адбываюцца з нагоды юбілеяў пісьменнікаў, лёс якіх цесна звязаны з Мсціслаўшчынай. Гэта Максім Гарэцкі класік беларускай літаратуры, Аркадзь Куляшоў, Эрнест Ялугін і іншыя. Аднак шмат якія помнікі занядбаныя, рэстаўрацыя іх спынена, бо не хапае сродкаў, патрэбны інвестыцыі, і даць іх можа ў першую чаргу добра арганізаваны турызм.

***Алег Трусаў,***
***кандыдат гістарычных навук, дацэнт.***



*Мсціслаўскі музей*

**Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 25.06.2012 г. у 10.00. Замова № 1154.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 3850 руб., 3 мес.- 11550 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.